КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

# Наша слова

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 22 (286) 30 траўня 1996 г.

Кошт — 1000 рублёў

TV-праграма

Згадкі
**БЕЛАРУСЫ ПАД МОНТЭ-КАСІНА**
Стар.4

Да 2000-годдзя хрысціянства
**ПЕРШЫЯ ЕРАСІ**
Стар. 5

## ПОСТУП ТЫДНЯ

○ **ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРАЦЯГВАЕ РАЗГЛЯД КАДРАВЫХ ПЫТАННЯЎ.** На адным са сваіх апошніх пасяджэнняў дэпутаты дабралі двух членаў Канстытуцыйнага суда, чые пасады да гэтага часу заставаліся вакантнымі. Пасля тайнага галасавання членамі Канстытуцыйнага суда сталі А.Вашкевіч і М.Чудакоў. Першы атрымаў падтрымку 108 дэпутатаў, другі — 114. Прыняло ўдзел у галасаванні 156 парламентарыяў.

○ ***У ГРАМАДСКІМ ПРЭС-ЦЭНТРЫ БЕЛАРУСКАГА ДОМА ДРУКУ ПРАЙШЛА ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ З МІНІСТРАМ АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ВАСІЛЁМ СТРАЖАВЫМ.*** *З яго вуснаў стала вядома, што зараз у нашай краіне 192 тысячы студэнтаў. Сёлета на стацыянар мяркуецца прыняць 25 тысяч. З усёй агульнай масы 150 тысяч маладых людзей вышэйшую адукацыю атрымаюць за кошт дзяржавы. Каля 20 тысяч вучыцца ў недзяржаўных ВНУ. Найбольш папулярнымі сталі спецыяльнасці, звязаныя з замежнымі мовамі, эканомікай і юрыспрудэнцыяй. На час уступных экзаменаў будуць створаны грамадскія прыёмныя камісіі, куды ўвойдуць бацькі абітурыентаў, прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі, грамадскіх арганізацый, а таксама школьныя настаўнікі. Ці не зашмат кантралёраў на шляху ў ВНУ?*

○ **АДБЫЎСЯ З'ЕЗД НОВАЙ ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ**, якая яшчэ 12 сакавіка была зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі Беларусі, — «Парламенцкі клуб». У клуб уваходзяць 42 чалавекі, з якіх 28 з'яўляюцца дэпутатамі сённяшняга Вярхоўнага Савета, 4 — членамі папярэдняга парламента, а астатнія прадстаўляюць абласныя і гарадскія саветы дэпутатаў. Старшынём «Парламенцкага клуба» аднагалосна абраны былы прэм'ер-міністр, дэпутат Вярхоўнага Савета Вячаслаў Кебіч.

○ ***ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ*** *з мастацкім кіраўніком нацыянальнай балетнай трупы народным артыстам Беларусі Валянцінам Елізар'евым. Вынікам працяглай размовы стала прэзідэнцкае абяцанне падтрымоўваць фінансава беларускі балет так, як ужо падтрымоўваецца Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.*

○ **АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА ПА АДУКАЦЫІ, НАВУЦЫ І КУЛЬТУРЫ**, на якім быў разгледжаны дзеючы Закон аб адукацыі. Было вырашана сабраць пад кіраўніцтвам намесніка старшыні камісіі Івана Свірыда творчы калектыў для распрацоўкі новага Закона аб адукацыі. Які будзе новы закон — пакажа час, а пакуль што вядома адно — амаль усе члены Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры не валодаюць беларускай мовай.

○ ***У МЕНСКУ ПРАХОДЗІЦЬ ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ «МУЗЫКА І ТЭАТР».*** *Яго арганізавалі Міністэрства культуры нашай краіны і Беларускі саюз кампазітараў пры ўдзеле Адміністрацыі Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета і Міністэрства абароны Беларусі.*

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне дырэктару выдавецтва «Юнацтва», пісьменніку Валянціну Антонавічу Лукшу з прычыны вялікага гора — смерці брата Леаніда.

# Заклік да ўсіх, каму дарагая Радзіма-Беларусь

Грамадскі камітэт абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі распаўсюдзіў заяву, у якой выказана вялікая трывога ў сувязі са спробай антынацыянальных сіл ліквідаваць дзяржаўную незалежнасць Беларусі дзеля рэанімацыі, як сказана ў Заяве, былой камуністычнай імперыі. З гэтай мэтай, гаворыцца ў Заяве, «вядзецца франтальны наступ на галоўныя нацыянальна-вызначальныя каштоўнасці беларускага народа і асноўныя чыннікі дзяржавы — мову, культуру, гісторыю, нацыянальныя сімвалы. Інтэнсіўна знішчаецца беларуская школа і ўся сістэма выхавання і асветы, беларуская мова выцясняецца з усіх сфер ужытку, перапісваюцца на імперскі лад школьныя падручнікі — нішчыцца гістарычная памяць; робіцца ўсё для разбурэння нацыянальнай самасвядомасці народа».

Камітэт звяртае ўвагу на тое, што нават ва ўмовах бессаромнага гвалту над дэмакратыяй і татальнага падману ў сродках масавай інфармацыі **больш за палову выбаршчыкаў выказаліся за захаванне ў якасці дзяржаўных сімвалаў гістарычнай Пагоні і бел-чырвона-белага сцяга».** Падкрэсліваецца таксама, што да гэтага часу **вынікі рэферэндуму не маюць юрыдычнай сілы і герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг адпаведна закона ад 19 верасня 1991 г. з'яўляюцца афіцыйнымі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі.** Камітэт звярнуўся да дэпутатаў Вярхоўнага Савета з заклікам стварыць парламенцкую камісію па разглядзе адпаведнасці сфармуляваных пытанняў рэферэндуму Канстытуцыі і законам Беларусі расследавання парушэнняў заканадаўства пры правядзенні рэферэндуму.

Заклікаюцца ўсе, каму дарагія незалежнасць Айчыны, яе гістарычныя сімвалы, далучыцца да Камітэта дзеля дасягнення ягоных мэт.

Заяву падпісалі 64 вядучыя вучоныя, пісьменнікі, культурныя і грамадскія дзеячы Беларусі, у тым ліку народныя пісьменнікі Васіль Быкаў і Янка Брыль, народныя паэты Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін, акадэмік, доктар геалагічных навук, прафесар Радзім Гарэцкі, доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, член-карэспандэнт АН Беларусі, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар І.Нікітчанка, доктар эканамічных навук, прафесар Уладзімір Кулажанка, доктар філасофскіх навук, літаратар Уладзімір Конан, доктар юрыдычных навук, прафесар Я.Юхо, прафесар, старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ Мікола Савіцкі, доктар тэхнічных навук, прафесар А.Саламонаў, прафесар, заг. кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай мастацкай акадэміі М.Раманюк і іншыя паважаныя асобы.

Поўнасцю з тэкстам звароту і спісам складу Грамадскага камітэта можна азнаёміцца ў газеце «Народная Воля», № 53, май 1996 г.

# «Наша слова» — газета для шляхетных людзей

У час, калі цэны на перыядычныя выданні шматкратна ўзраслі, як і на ўсё іншае, а заробкі істотна адстаюць, многім сем'ям даводзіцца ўважліва вырашаць, на якія газеты і часопісы падпісацца. Канешне, людзі ў першую чаргу падпішуцца на сваю раённую ці гарадскую газету, бо хочуць абавязкова ведаць мясцовыя навіны. Наступнай газетай, відаць, будзе нейкая агульнарэспубліканская. Лепей, каб яна была адначасова агульнанацыянальнай, ды, на жаль, пакуль пераважная большасць ці з імпэтам абслугоўвае ідэалагічныя патрэбы адпаведных чыноўнікаў, ці мае іншую скіраваную партыйную афарбоўку. Адпаведнай там будзе і інфармацыя. Так што міжволі давядзецца выбіраць — праграма якой партыі каму бліжэй.

Але ёсць агульнанацыянальная газета, якая з'яўляецца беспартыйнай і ў той жа час цвёрда падтрымлівае ў людзях грамадзянскую годнасць, духоўнасць і павагу да агульначалавечых каштоўнасцяў, што яшчэ ў нас называюць шляхетнасцю. Гэта «Наша слова».

Напачатку было Слова, сказана ў Бібліі. І гэты дар Божы мае кожны чалавек. Толькі яго трэба не загубіць, а паважаць у сабе і развіваць. Надзейным дарадцам і сябрам тут стане штотыднёвік «Наша слова».

Чытачы «Нашага слова» заўсёды будуць у курсе культурна-грамадскага жыцця краіны і беларусаў ва ўсім свеце. У рэдакцыі трывалыя кантакты з лепшымі спецыялістамі Акадэміі навук і філолагамі ўсіх універсітэтаў Беларусі, а таксама пісьменнікамі і настаўнікамі-практыкамі.

Пастаянна публікуюцца звесткі пра духоўна-рэлігійнае жыццё ў краіне, звесткі пра кнігі, кіна- і відэафільмы, тэатр і рок-ансамблі, ёсць TV — праграма на тыдзень і многае іншае.

Нарэшце чытачы адчуваюць сябе сябрамі своеасаблівага культурна-асветніцкага клуба «Наша слова» і маюць магчымасць падтрымліваць праз газету ўзаемную духоўную сувязь.

А яшчэ, пастаянна чытаючы «Наша слова», Вы не адвыкніце ад нармальнай сучаснай літаратурнай беларускай мовы.

Кошт падпіскі на «Наша слова» ў параўнанні з іншымі газетамі невялікі.

**Эрнэст ЯЛУГІН,**
**галоўны рэдактар газеты «Наша слова».**

***Вельмі спадзяёмся на актывістаў Таварыства беларускай мовы на месцах. Паспрыяйце, калі ласка, падпісцы на «Наша слова». Перадайце наш зварот да чытачоў у рэдакцыю Вашай раённай ці гарадской газеты і папрасіце надрукаваць.***

***Шаноўныя сябры! Просім таксама гэты тэкст, дамовіўшыся з супрацоўнікамі пошты, размясціць на відным месцы ці ўкласці ў каталог падпіскі. Наш індэкс 63865.***

**Рэдакцыя «НС».**

# Новыя змагары

У сталіцы старажытнае беларускае дзяржавы Вільні 14 лютага сёлета створана маладзёжная арганізацыя — Згуртаванне беларускае моладзі Віленшчыны. Актыўную дзейнасць новае таварыства пачало адразу пасля атрымання рэгістрацыйнага пасведчання. Рада ЗБМВ выправіла на ўдзел ва Усебеларускім маладзёжным форуме старшыню арганізацыі Валерыя Савянкова, вядомага актыўнага і значнага арганізатара, ідэолага тут, на Бацькаўшчыне, які ўжо пяць гадоў жыве ў Летуве. Шмат разоў пад час сваіх выступленняў на форуме Валерый закранаў важныя праблемы ў маладзёжных арганізацыях дыяспары, узнімаў пытанні маладзёжнага руху на Беларусі. Пасля заканчэння маладзёжнага форуму ў Менску былі падведзеныя вынікі

*(Заканчэнне на с.4.)*

# Грамадзянская супольнасць: рэальнасць і перспектыва

З 16 па 18 траўня Грамадскі навукова-аналітычны цэнтр «Беларуская перспектыва» правёў у Менску семінар-трэнінг на тэму: «Роля лідэрства ў пабудове грамадзянскай супольнасці ў посткамуністычны перыяд у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы».

Цэнтр «Беларуская перспектыва» створаны групай беларускай інтэлігенцыі на ўстаноўчым з'ездзе 14 верасня 1995 г. Цэнтр займаецца правядзеннем семінараў, лекцый, канферэнцый, дыскусій і г.д. з мэтай пабудовы на Беларусі грамадзянскай супольнасці.

Семінар-трэнінг адрозніваецца ад канферэнцый і проста семінараў тым, што, апрача дакладаў, яшчэ прадугледжвае і вучобу, дзелавыя гульні, абмен досведам ды інш. Апрача беларускіх, пераважна маладзёжных арганізацый, у семінары ўзялі ўдзел госці з Польшчы, Украіны, Летувы і Эстоніі.

Былі заслуханы даклады сустаршыні «Беларускай перспектывы» сп. Валянціна Голубева на тэму: «Роля і месца грамадскіх арганізацый у працэсе фармавання грамадзянскай супольнасці ў постсацыялістычнай Беларусі», дзе ён адзначыў, як важна для палітыка мець досвед палітычнай барацьбы і што трэба зрабіць для таго, каб грамадзянская супольнасць у нас сфармавалася.

Дырэктар даследчага цэнтра сацыяльнай дынамікі сп. Уладзімір Падгол у дакладзе «Лідэр беларускага грамадства: чаканні і рэальнасць» раскрыў істоту і ментальнасць савецкага чалавека і паказаў, якога тыпу ідалы вызначаюць масавую свядомасць, чым вельмі зацікавіў аўдыторыю і выклікаў вялікую колькасць пытанняў.

Цікавым і змястоўным быў даклад палітычнага аглядальніка газеты «Белорусский рынок» Юрыя Шаўцова «Традыцыйныя структуры беларускай уладнай эліты і іх трансфармацыя». Падзел тэрыторыі краіны ўладнай эліты па жорсткім рэгіянальным прынцыпе, своеасаблівасці Усходу і Захаду краіны, этнаканфесійныя чыннікі развіцця Беларусі — гэтыя пытанні зацікавілі многіх удзельнікаў семінара. Спадар Яўген Вапа з Беластока распавёў пра асаблівасці менталітэту беларусаў Беласточчыны, пра стварэнне першых беларускіх незалежных арганізацыяў і палітычных партыяў у Польшчы і аб іх узаемадзеянні з польскай большасцю.

Шмат эмоцый ва ўдзельнікаў выклікала дзелавая гульня на тэму прэзідэнцкіх выбараў. Часам удзельнікі сітуацыі не маглі абстрагавацца ад рэчаіснасці, і ўсе прапановы зводзіліся да варыянтаў канстытуцыйнай змены ўлады.

Удзельнікі прынялі заяву аб неадкладным вызваленні Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка са зняволення.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

 



# Акцыя ў падтрымку палітзняволеных

Больш за тры тыдні галадавалі ў следчай турме па вуліцы Валадарскага лідэры Беларускага Народнага Фронту Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык. У той жа турме знаходзяцца сем грамадзянаў Украіны. Усім ім інкрымінуюць арганізацыю масавых беспарадкаў на менскіх вуліцах 26 красавіка 1996 г. Вячаслаў Сіўчык нядаўна быў пераведзены з камеры ў турэмны шпіталь, стан у абодвух вязняў цяжкі. Лёсам вязняў зацікавіліся прадстаўнікі розных праваабарончых арганізацый, а таксама Дзярждэпартамент ЗША, Камісія па правах чалавека Еўрапарламента. Але самае істотнае тое, што салідарнасць з палітзняволенымі праявілі простыя беларускія грамадзяне. Так, 14 траўня каля будынка адміністрацыі Прэзідэнта стыхійна сабраліся людзі, якім неабыякавы лёс Радзімы і захаванне ў Беларусі правоў чалавека. Прыкладна гадзіну маніфестанты (а іх сабралася 3—4 тысячы) скандзіравалі лозунгі ў падтрымку вязняў і асуджэння гвалту. Міліцыянты неаднаразова, праз узмацняльнікі заклікалі грамадзян разысціся, пагражаючы нават прымяненнем, у выпадку неабходнасці, фізічнай сілы. Пасля народ па ходніках рушыў уздоўж праспекта ў напрамку следчага ізалятара.

На скрыжаванні праспекта Скарыны з вуліцай Валадарскага маніфестантаў чакаў міліцэйскі кардон. Пасля кароткай сутыкі, міліцыя адступіла, даючы людзям прайсці да будынка турмы. На гэты раз уладам усё ж хапіла розуму не правакаваць беспарадкі. Народ пікетаваў следчы ізалятар яшчэ на працягу гадзіны. Цікава было назіраць, як паводзілі сябе прадстаўнікі ўлады. Адзін з міліцыянтаў на прыстойнай беларускай мове (чаго раней сярод іх не было заўважана) заклікаў людзей ісці па хатах глядзець тэлевізар. Другі прасіў не перашкаджаць адпачынку цяжарным жанчынам і маладым маці з немаўлятамі з суседняга роддома, хаця ўжо доўгі час у будынку гэтай установы праводзіцца капітальны рамонт і, натуральна, ніякіх парадзіх там і блізка няма. Урэшце народ, пастаяўшы, пачаў паступова разыходзіцца. Затым пачаліся штодзённыя пікеты ў падтрымку палітвязняў, удзельнікаў якіх запалохвалі і пакаралі. Але грамадзянская сумленне і мужнасць дапамагалі людзям настойліва адстойваць свае канстытуцыйныя правы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

**Ад рэдакцыі.** Гэты матэрыял быў падрыхтаваны адразу пасля 14 траўня. Цяпер Ю.Хадыка і В.Сіўчык вызваленыя. Пра гэта чытайце ў наступным нумары.

# Польшча выказвае пратэст

Дэлегацыя польскага незалежнага прафсаюза «Салідарнасць» прыбыла ў нашую краіну па афіцыйным запрашэнні Свабоднага прафсаюза Беларусі. У праграму візіту ўваходзіла наведванне і Менскага завода аўтаматычных ліній, куды яна накіравалася з раніцы 14 траўня. Але на прахадной завода іх ужо чакалі людзі ў міліцэйскай форме і ў цывільным. Яны заявілі, што нікога не прапусцяць на тэрыторыю прадпрыемства, і забралі выдадзеныя раней адміністрацыяй пропускі. Сустрэча польскай дэлегацыі з рабочымі ўсё ж адбылася пад час абедзеннага перапынку на школьным стадыёне, які знаходзіцца побач з прахадной. Пасля гэтага палякі наведалі штабкватэру Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў. Прыкладна а 15 гадзіне пры выхадзе з рэстарана «Патсдам» невядомымі ў цывільным былі сілай затрыманыя прэзідэнт прафсаюза «Салідарнасць» Мар'ян Кшаклеўскі, Яўген Пачыньскі, Анджэй Адамчык, вадзіцель і беларускі перакладчык Валерый Буйвал. Усе затрыманыя былі дастаўленыя ў Партызанскі РАУС г.Менска, дзе іх трымалі каля пяці гадзін, абвінавацііўшы спачатку ў парушэнні пашпартнага рэжыму, а потым у правядзенні несанкцыянаванага мітынгу (сустрэча на стадыёне). Пасля іх адвезлі ў гатэль забраць асабістыя рэчы і дэпарціравалі з краіны.

Міністэрства замежных спраў Польшчы падало афіцыйную ноту пратэсту пасольству Беларусі ў гэтай краіне. Пратэстуюць шмат якія польскія грамадскія дзеячы і арганізацыі.

А 15 траўня звыш тысячы маніфестантаў пікетавалі консульства Беларусі ў Беластоку, пратэстуючы супраць знаходжання ў зняволенні Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка. На мітынгу выступіў лідэр «Салідарнасці» Мар'ян Кшаклеўскі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Даты і падзеі ў чэрвені

1 — Міжнародны дзень абароны дзяцей.
— 85 гадоў з дня нараджэння Якуба Міська, пісьменніка і журналіста.
— 80 гадоў з дня нараджэння паэта Міколы Гваздова.
— 70 гадоў таму была легалізавана Беларуская Сялянска-Работніцкая грамада, самая шматлікая арганізацыя Заходняй Беларусі.
— 50 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Генрыха Далідовіча.

2 — 100 гадоў з дня нараджэння Пётры Татарыновіча, святара, пісьменніка, перакладчыка на беларускую мову рамана Г.Сянкевіча «Quo vadis».

3 — 60 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Алеся Дзятлава.

4 — 480 гадоў таму Навагарадак атрымаў права на самакіраванне (магдэбургскае права).
— 220 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Хадкевіча, удзельніка паўстання Касцюшкі, сябра ўрада ВКЛ (1812 г.), навукоўца, аўтара сямітомнага падручніка «Хімія» (1818—1830 гг.).
— 175 гадоў з дня нараджэння Апалона Майкава, расійскага паэта.

5 — Дзень памяці святой Ефрасінні Полацкай, нябеснай апякункі Беларусі.
— Сусветны дзень аховы навакольнага асяроддзя.

6 — 155 гадоў з дня нараджэння пісьменніцы Элізы Ажэшкі, якая ў сваіх творах апісвала жыццё і побыт беларусаў, беларускую прыроду.

**Падрыхтаваў З.С.**

*Працяг тэмы*

# Салігорск: «грамадзянская вайна» працягваецца

Мы ўжо расказвалі пра тое, што ў СШ № 11 г.Салігорска ідзе «ціхая» грамадзянская вайна. Адміністрацыя школы сутыкнулася з упартым супраціўленнем вучняў да спробы размяшчэння пострэферэндумаўскага герба «з каласкамі» ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры. Некалькі разоў гэты сімвал вывешваўся тут над класнай дошкай і столькі ж разоў нейкімі «невядомымі дзецьмі» таемна зрываўся. Аднойчы яны прымацавалі там нават выяву «Пагоні», але яе таксама хтосьці здзёр са сцяны.

Новыя акалічнасці па згаданым канфлікце паказваюць, што «грамадзянская вайна сімволік» набывае новую якасць.

...У другой палове красавіка загадчыца аддзела адукацыі Салігорскага гарвыканкама Таісія Данілевіч наведала СШ № 11 і зазірнула ў кабінет беларускай мовы і літаратуры. Зразумела, пляма на сцяне замест прэзідэнцкага герба не выклікала энтузіязму ў прадстаўніцы «вертыкалі». Адбылася прынцыповая размова з дырэктарам школы Уладзімірам Каштальянам і настаўніцай Марыяй Мацюкевіч. Таісія Данілевіч наведала ўрок Марыі Сцяпанаўны, прысвечаны чарнобыльскай трагедыі...

У выніку начальніцкай праверкі на дзверы кабінета беларускай мовы і літаратуры навешалі пломбу. З пачуццямі школьнікаў вырашылі не цырымоніцца. Марыя Мацюкевіч захварэла. Бальнічны ёй выдаваў неўрапатолаг.

Як заявіла мне Таісія Данілевіч, Марыі Мацюкевіч трэба вызначыцца: выбраць паміж палітыкай і настаўніцкай справай. Такім чынам, калі параўнаўча нядаўна ў аддзеле адукацыі Марыю Сцяпанаўну хвалілі за выхаванне вучняў патрыётамі Беларусі, людзьмі, якія шануюць нацыянальныя гістарычныя святыні, сёння чыноўнікі за гэтае ж вінавацяць педагога, расцэньваюць як занятак «палітыкай». А палітыкай у школе займацца нельга, і на гэты конт ёсць адпаведны загад міністра. Значыць, школа больш не мае права займацца выхаваннем «палітычна актыўных грамадзянаў, сапраўдных патрыётаў Радзімы», як тое было ў эсэсэраўскі час?

Але вернемся да кабінета мовы і літаратуры СШ № 11, што меў сваю «гаспадыню» — Марыю Мацюкевіч. «Пад пломбай» ён знаходзіўся каля тыдня. Затым усё ж быў «распячатаны». Адначасова дырэктар школы Уладзімір Каштальян выдаў загад, якім вызваліў Марыю Мацюкевіч ад загадвання тым кабінетам. Педагог растлумачыла мне: гэта пакаранне пазбавіла і яе, і 7«Б», дзе яна класная кіраўніца, памяшкання, неабходнага, каб праводзіць сходы, вечарыны ды іншыя мерапрыемствы. Цяпер дзеля таго настаўніца павінна прасіцца ў «кватаранты» да іншых калегаў. Такая вось, выяўляецца, «палітыка».

Марыя Мацюкевіч мае намер дабівацца справядлівасці ва ўсіх ведамасных інстанцыях і нават, калі запатрабуецца, у судзе. А ўвогуле педагог рыхтуецца да самага горшага, хаця вучні падтрымліваюць яе, пра што яны прызналіся кіраўнікам школы.

Праўда, Тамара Карняйчук, намесніца загадчыцы гарадскога аддзела адукацыі, мне заявіла, што Марыя Мацюкевіч не будзе звольнена са школы: маўляў, няма аніякіх падставаў.

Але наўрад ці здолее і гэтая чыноўніца ў выпадку чаго ўратаваць нескароную настаўніцу і грамадскую дзяячку — лідэра Салігорскай раённай Рады ТБМ.

Я папрасіў пракаментаваць згаданы канфлікт дэпутата Вярхоўнага Савета Аляксандра Дабравольскага. Ён сказаў, што бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» Вярхоўны Савет не адмяняў і адмяніць не здолее, бо «гэтыя сімвалы ўжо ўвайшлі ў гісторыю дзяржавы». Хаця, па словах народнага абранніка, у кабінеце беларускай мовы і літаратуры мае права быць змешчаны і новы герб «з каласкамі». Паводле меркавання Аляксандра Дабравольскага, у кабінеце, якім загадвае Марыя Мацюкевіч, і адпаведных кабінетах школаў краіны трэба арганізаваць куткі гісторыі беларускай мовы і літаратуры, дзе могуць быць размешчаны ўсе гістарычныя беларускія сімвалы. Такім чынам, можна было б пакласці канец супрацьстаянню. Аляксандр Дабравольскі лічыць, што большасць, якая перамагла на сумнеўным травеньскім рэферэндуме 1995 года, нягледзячы на яе перамогу, павінна з павагай адносіцца да меншасці, асабліва ўлічваючы факт, што да такой «меншас-ці» адносіцца даволі ўнушальная частка насельніцтва — за тры мільёны! А ўвогуле «рэферэндум 14 траўня», заўважыў дэпутат, ужо зрабіў сваю нядобрую справу: раскалоў беларускае грамадства. Падзеі, што маюць месца ў СШ № 11 г.Салігорска, — адна з пачварных праяў такога расколу.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**
г.Салігорск.

*Культурнае жыццё*

# Заслаўскае рэха

За апошнія 10 гадоў у свеце адбылося шмат прыродных і сацыяльных катастроф. І з памяці людзей чарнобыльская трагедыя пачала сцірацца. Чарнобыль — гэта не толькі каласальная экалагічная катастрофа, наступствы якой так ці інакш адмоўна ўплываюць на развіццё ўсяго чалавецтва. Экалогія прыроды найцяснейшым чынам звязаная з экалогіяй душ чалавечых. Адарванасць людзей ад веры, ад ідэалаў, ад сапраўдных маральных і духоўных каштоўнасцяў стала адной з прычын таго, што здарылася ў Чарнобылі і адбываецца цяпер на Беларусі.

І каб звярнуць свядомасць людзей да трагедыі, наступствы якой працягваюцца і сёння, праводзілася ў Заслаўі акцыя «Чарнобыльскі набат». Яе ладзілі дабрачынная асацыяцыя «Рада», гісторыка-культурны запаведнік, прыход Спаса-Прэабражэнскай царквы і Дом дзіцячай творчасці.

Са старажытнага гарадзішча «Вал» заслаўскія школьнікі пусцілі ў неба мноства рознакаляровых шароў з чорнымі стужкамі. Урачыста і трывожна прагучаў канцэрт-рэквіем званароў: Уладзіміра Баркоўскага з Саратава, Галіны Марчук з Луцка і Дзмітрыя Андаралы з Заслаўя. А пасля ўдзельнікаў акцыі запрасілі на вежу-званіцу Спаса-Прэабражэнскай царквы, дзе адкрылася мастацкая выстава «Чарнобыльскі боль». Трох беларускіх мастачак Валянціну Бартлаву, Галіну Крываблоцкую і Галіну Русак (ЗША) аб'яднала шчымлівае, шчырае пачуццё да Бацькаўшчыны, да лёсаў яе жыхароў, да непаўторнай прыгажосці беларускай прыроды, боль за трагедыю фізічнага і духоўнага жыцця нашага народа.

Габелены «Вялікдзень», «Адраджэнне», «Зорны спеў» В.Бартлавай, «Дыялог з прыродай», «Апошнія ліхтары» Г.Крываблоцкай, «Буслы ў палёце», «Чарнобыль» Г.Русак уражваюць майстэрствам.

Сябры ваенна-гістарычнага клуба «Сярэбраны Адзінарог» з Менска выступілі ў даспехах і старадаўніх строях перад заслаўчанамі і паказалі рыцарскі турнір. Чароўная «князёўна» ўзнагародзіла пераможцу.

**Вера НАВІЦКАЯ.**

# Назваўся ён Бядулем

Красавіцкім цёплым днём у Літаратурным музеі Якуба Коласа святкавалася 110-годдзе з дня нараджэння знакамітага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі.

На свята былі запрошаны сын Змітрака Бядулі Яфім Самуілавіч Плаўнік з жонкай і сынам, даследнікі творчасці юбіляра — акадэмікі Іван Якаўлевіч Навуменка і Віктар Антонавіч Каваленка, дацэнт БДУ Вольга Васільеўна Казлова, пісьменнік Мікола Татур, народны артыст Беларусі Павел Дубашынскі, фальклорныя ансамблі «Забава» з Лагойшчыны і «Гарэзы» са Стаўбцоўшчыны — радзімы Змітрака Бядулі і радзімы Якуба Коласа, і мы, навучэнцы Менскага педагагічнага каледжа. Іван Курбека, які вёў рэй, зладзіў урачыстую і шчырую сустрэчу.

З выступленняў навукоўцаў мы даведаліся шмат новага пра паходжанне, жыццё і творчасць юбіляра, у якой спалучылася адлюстраванне культуры двух народаў — габрэйскага і беларускага. Для нас, напрыклад, было новым паведамленне, што псеўданім «Бядуля» паходзіць не проста ад слова «бяда», як нам здавалася раней. Бядуля — гэта фальклорны герой, дзядок, у абавязак якога ўваходзіла суцяшэнне сірот.

Цікава было пачуць, што Змітрок Бядуля ведаў некалькі моў і, вядома ж, сваю родную. На ёй нават пісаў свае першыя вершы. Але гэта яму не перашкодзіла добра ведаць беларускую мову, мову народа, сярод якога вырас. І беларусы яму адказваюць шчырай удзячнасцю, шануюць яго імя.

Шмат чаго хацелася пачуць ад сына Бядулі, Яфіма Самуілавіча. Але яму было ўсяго сем гадоў, калі бацькі не стала. Расказваў, што памятае толькі добра пакой, у якім тата працаваў і ўсе стараліся яму не перашкаджаць, што да Плаўнікаў часта збіраліся знаёмыя, сярод якіх быў Заір Ісакавіч Азгур, што родзічы былі таленавітыя людзі, ігралі на скрыпцы, піяніна і вучылі іграць яго.

На свяце гучалі творы Змітрака Бядулі. Дзіцячыя вершы юбіляра чыталі навучэнцы нашага каледжа Толя Дрыгін, Света Тапырык і Галя Юхневіч. Цудоўныя песні пяялі гурты «Забава» і «Гарэзы».

**Вольга ГЛОБАЖ,**
**навучэнка Менскага педагагічнага каледжа.**

# Скрыжаванні надзей

Чалавек заўсёды робіць штосьці ўпершыню: першыя крокі, першыя словы, першыя напісаныя самастойна літары, сачыненні. Але самым вялікім поспехам лічыцца выдадзеная кніга.

Нядаўна ў Доме літаратара адбылася прэзентацыя кнігі «Скрыжаванне» аўтараў Пятра Чабора і Міхася Мельніка. Вечарына пачалася прадмовай-вершам Пімена Панчанкі «Дзе нараджаюцца паэты», які прачытаў Кастусь Цвірка. Гучалі выступленні, песні прадстаўнікоў авангардысцкага руху. Мы пачулі жартоўныя вершы і цікавыя гісторыі з жыцця Пятра Чабора (Пятра Пятровіча Ільюкевіча), у якога якраз быў дзень нараджэння.

Што адменнага ў зборніку паэзіі «Скрыжаванне»? Адзначым наступнае: разнастайнасць тэмаў, меладычнасць мовы, рытм, рыфма, непасрэдная сувязь вершаў з фальклорам, наяўнасць вобразаў роднай прыроды, шчырасць пачуцця да каханай.

Усё гэта сведчыць, што беларуская літаратура папаўняецца новымі імёнамі. А яшчэ прыемна адзначыць, што абодва аўтары — шчырыя рупліўцы роднай мовы, сябры і кіраўнікі суполак Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

А яшчэ трэба сказаць, што нас, будучых філолагаў, прывабіла назва зборніка. Чаму менавіта «Скрыжаванне»? Адказ можна знайсці ў наступным: лірычныя творы Пятра Чабора ніццю звязаны з паэтычнай публіцыстыкай Міхася Мельніка.

Застаецца падзякаваць міжнароднаму фонду «Беларускі кнігазбор», які пазнаёміў нас з кнігай «Скрыжаванне», а аўтарам пажадаць новых твораў.

**Юрый МЕЛЬНІКАЎ,**
**кіраўнік літаб'яднання «Маладзічок» Менскага педагагічнага каледжа.**

*Лісты ў рэдакцыю*

# Мір Божы Вам!

Прачытаў у «Нашым слове» (№ 15) зварот удзельнікаў канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі» да вернікаў розных канфесій. Добрая была канферэнцыя. Калі яшчэ будзе якая ладзіцца, то, мо, трэба будзе асобную секцыю стварыць па праблемах мовы набажэнстваў, каб болей зацікавіць людзей і прыцягнуць увагу да гэтай праблемы.

Але я веру ў Ісуса Хрыста і спадзяюся на Бога. Госпад сказаў, і гэта запісана ў Бібліі, што імя Яго будзе праслаўлена на ўсіх мовах, гэта значыць і на беларускай таксама.

Няхай дабраславіць Вас Госпад!

З павагай,

**Андрусь ДЫЛЮК.**

 

## Актуальна

Згадаем, што Маладзечна — адно з нямногіх месцаў краіны, дзе 14 траўня мінулага года адбыўся канфуз з рэферэндумам — людзі не падтрымалі палкую ініцыятыву «бацькі», каб народнымі рукамі зруйнаваць беларускасць. Канешне, можна ўсё патлумачыць тым, што сам горад — старажытны беларускі культурны цэнтр з моцным асяродкам вельмі паважанай гуманітарнай нацыянальнай інтэлігенцыі. Але і тое ж Гродна — не Камароўскі базар. Тым не меней менавіта Маладзечна выстаяла, падтрымала беларускія гонар і годнасць. Значыць, не адна інтэлігенцыя галасавала за гэта, а і ўсе астатнія добрыя людзі, якіх камуністычныя прапагандысты лічаць «масай», зацыкленай на каўбасе. Маладзечанцы таксама не супраць каўбасы, але цвёрда ведаюць, які трэба мець дзяржаўна-грамадскі парадак, каб не чакаць, пакуль нехта добранькі нешта дасць, а стварыць заможнае жыццё ўласнымі рукамі.

# *Адраджэнскі фактар, або Зноў пра маладзечанскую адметнасць*

То не дзіва, што ў Маладзечне і адпаведная грамадскім настроям прэса. А інакш хто яе, іншую возьме ў рукі? Хіба што некалькі дзесяткаў ваенных пенсіянераў з расійска-імперскімі настроямі. Ды не яны тут робяць «надвор'е».

Адной жа з самых прыкметных у горадзе можна смела назваць «Маладзечанскую газету» — старэйшую тут (выдаецца з верасня 1939 г.). Яе журналісты, востра адчуваючы грамадзянскую патрэбу ведання сапраўднай, несфальсіфікаванай камуністычнымі прапагандыстамі гісторыі родных мясцін, дамаўляліся з сумленнымі і высокаадукаванымі спецыялістамі пра напісанне адпаведных артыкулаў. І з нумара ў нумар друкавала газета цікавыя матэрыялы і пра беларускую годнасць сваіх землякоў ва ўсе часы, і пра багацце, хараство роднага слова, і пра самастойнасць нацыянальнай культуры, і пра гістарычную сімволіку беларускага народа — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Карацей, газета нібыта знарок рыхтавала сваіх чытачоў да рэферэндуму. А чытачоў «МГ» мае багата: выпускі па серадах разыходзяцца ў колькасці 8 тысяч экземпляраў, а суботнія набываюць каля 11 тысяч жыхароў горада і Маладзечанскага раёна. І гэта пры даволі шчыльнай канкурэнцыі. Вось маладзечанцы ў пераважнай большасці і прагаласавалі граматна — за сваю нацыянальную годнасць, за Беларусь.

Сёння, калі ад таго рэферэндуму нас аддзяляе вельмі складаны год, журналісты «Маладзечанскай газеты» могуць ганарыцца тым, што засталіся вернымі свайму генеральнаму накірунку. Магчыма, канешне, што ў гэтым заслуга і ўладных сузаснавальнікаў, — а разам з працоўным калектывам рэдакцыі імі з'яўляюцца гарадскі ды раённы Саветы дэпутатаў, — але факт: матэрыялы пра беларускую культуру, мову ды гісторыю на газетных палосах з'яўляюцца з ранейшым пастаянствам. Гартаючы падшыўку «МГ» ужо сёлетняга года, я звярнуў на гэта асаблівую ўвагу, калі параўнаў сітуацыю з некаторымі іншымі выданнямі. Размова пра беларускасць нават стала больш канкрэтнай, заклапочанай.

Не скажу, што газета ідзе на рызыкоўныя канфлікты з нейкімі «вертыкальнымі» структурамі, але і не праходзіць міма выпадкаў, калі церпіць беларуская нацыянальная годнасць. У той жа час «МГ» стараецца засведчыць і заахвоціць любы, нават самы маленькі крок маючых уладу ў спрыянні беларушчыне. Канешне, маладзечанскім журналістам тут, можа, лягчэй, прасцей, чымся ў якіх іншых месцах, бо, як адзначалася ўжо, тутэйшыя прадстаўнікі ўлады выглядаюць людзьмі даволі зычлівымі да беларускай культуры і мовы — асяродак спрыяе! Але зноў жа ці было б тое, каб і газета ў свой час усімі сіламі не спрыяла нацыянальна-культурнай адукацыі насельніцтва, гуртуючы вакол рэдакцыі лепшыя сілы беларускай інтэлігенцыі.

Ну, а што ж канкрэтна адбываецца на Маладзечаншчыне ў сэнсе развіцця свядомай беларускасці, калі адсочваць гэта па газетных старонках? Не прамінула «Маладзечанская газета» падрабязна паведаміць, што:

— Менскі абласны цэнтр дзіцячай творчасці ў Маладзечне (дзяржаўная структура) ужо некалькі гадоў выхоўвае ў дарослых і маленькіх маладзечанцаў нацыянальную свядомасць на грунце каляндарна-абрадавага цыклу беларусаў. Тут і падрыхтоўка народных святаў (Багач, Здзвіжанне, восеньскія Дзяды, Піліпаўка, Каляды, Хрышчэнне, Стрэчанне, Вялікдзень, Купалле і г.д.), і экскурсіі ў гарады Беларусі, што маюць адметную гісторыю, і знаёмства з гісторыяй кнігадрукавання краіны. Карацей, выпрацавана цэлая праграма — «Культурныя каштоўнасці Беларусі»;

— Гарвыканкам на сваім студзеньскім пасяджэнні забараніў рэалізацыю відэакасетаў, якія прапагандуюць культ гвалту, жорсткасць, цынізм і парнаграфію;

— На першым (лютаўскім) пасяджэнні ў старшыні гарвыканкама Станіслава Татарыновіча абмяркоўваліся пытанні арганізацыі правядзення ў Маладзечне беларускага тэатральнага свята — «Сакавіца-96»;

— Члены гарвыканкама аднагалосна рэкамендавалі кандыдатуру кіраўніка і дырыжора Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Міхаіла Фінберга на прысуджэнне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне мастацтва за важкі ўклад у станаўленне і развіццё менавіта беларускай эстрады;

— Разглядалася пытанне аб заахвочванні эстрадных і фальклорных нацыянальных калектываў...

І гэтак далей.

Сапраўды, чаму не згадаць добрым словам шчыраванне уладаў на ніве адраджэння беларушчыны? І яшчэ раз падказаць: улада, якой бы ні была там — больш схільнай да Прэзідэнта або да Вярхоўнага Савета — павінна быць перш за ўсё зарыентаванай на духоўнае развіццё нацыі. Бо інакш і эканоміку не ўзняць, і грамадзянскай еднасці не дасягнуць.

А ў раздзелах эканамічных «МГ» прапагандуе дзеянні райвыканкама і гарвыканкама ў справе рацыянальнага функцыянавання і выхаду на самастойнасць, самаакупнасць прамысловасці ды сельскай гаспадаркі ўсіх формаў уласнасці. І тут выданне — шчыры памочнік «вертыкальшчыкаў». Я чуў, напрыклад, шмат добрага пра «Маладзечанскую газету» ад старшыні гарвыканкама Станіслава Татарыновіча. Ва ўзаемаадносінах прэсы з уладай сапраўды трэба ісці толькі ад разумення функцый кожнага — раўнапраўных, аднолькава неабходных народу. Асноўны ж абавязак журналісцкіх калектываў — пісаць і казаць праўду пра народнае жыццё.

Так яно практычна сёння і ёсць у Маладзечне, дзе ў «вертыкаль» уваходзяць людзі, якія разумеюць, што менавіта праз нацыянальную самасвядомасць яны пазбавяць свой рэгіён ад каросты цемрашальства, злачыннасці, п'янства, варварства ў дачыненнях між грамадзянамі і дзяржавай, між самімі грамадзянамі ў сем'ях і па-за межамі дома. Культурны, адукаваны, нацыянальна свядомы чалавек лепш працуе, лепш выхоўвае дзяцей, лепш разумее каштоўнасць парадку і законнасці.

З прыемнасцю чытаў я ў «Маладзечанскай газеце» такія радкі, падобных да якіх не сустракаў у іншых дзяржаўных «раёнках» Менскай вобласці:

«...Дарэчы, вось ужо другі ранішнік праходзіць у «першачкоў» (1 «Б» класа расійскамоўнай СШ № 6 — **А.М.**) на беларускай мове і грунтуецца на беларускім фальклоры. І гэта проста выдатна: хлопчыкі і дзяўчынкі з 1 класа вывучаюць англійскую мову, усе асноўныя прадметы ў іх выкладаюцца на рускай. А рыхтуючыся да свята, яны маюць цудоўную магчымасць адчуць прыгажосць роднага слова, далучыцца да беларускай культуры».

**(Рэдакцыйны матэрыял «МГ», № 4, 1996.)**

* * *

«Дзесяткі гадоў вышэйшае партыйнае кіраўніцтва імкнулася стварыць з Леніна культ ідала. Нас заклікалі да творчага вывучэння спадчыны Уладзіміра Ільіча, а часцей усё зводзілася да начотніцтва і фармалізму, у тым ліку ў навучальных установах. Нярэдка думкі Леніна выкарыстоўваліся для няпэўных дырэктыў... І вялікая краіна развалена, ленінская ідэя самавызначэння нацый зняслаўлена...»

Гэтыя радкі належаць члену ПКБ А.Шчукіну.

**(«МГ», № 8—9, 1996.)**

* * *

«...Хвалюе тое, што памяць мужнай патрыёткі Ларысы Геніюш усё яшчэ чакае свайго ўвасаблення на нашай сцэне... Нягледзячы на тыя цяжкія выпрабаванні, што абрынуліся на плечы гэтай мужнай жанчыны, яна не зламалася, а пранесла любоў да роднага краю, да мовы, да таго, чым жыла і жыве наша Бацькаўшчына. Гэта цудоўны прыклад для нас і для будучага пакалення». (Так напісаў Мікалай Мацкевіч, мастацкі кіраўнік Менскага аблдрамтэатра ў Маладзечне, заслужаны работнік культуры РБ; **№ 11, 1996.**)

* * *

«Хачу зазначыць, што ніводзін клас (з другога па шосты) не пераведзены на рускую мову. Бацькі, педагогі разумеюць, што ставіць эксперыменты на дзецях шкодна. Зразумела, што тая мова, на якой пачата навучанне, павінна быць адна да канца навучання школьніка». (Паведамленне Уладзіміра Ляговіча, загадчыка Маладзечанскага аддзела адукацыі; **№ 16, 1996 г.**)

Я часта разважаю пра незалежнасць той беларускамоўнай прэсы, якая па характару юрыдычных адносінаў нібыта і залежная ад дзяржавы. Але мала хто з нас думае, што незалежнасць газеты, часопіса, інфармацыйнага агенцтва пачынаецца з унутранай незалежнасці журналіста і чэсным служэннем грамадству, у якім ён жыве, з яго памкнення зрабіць гэта грамадства больш дасканалым, а значыцца — стварыць дасканалую дзяржаву. Уласна, для таго, каб змагацца за гэта на старонках газеты або ў тэле- ці радыёэфіры, і патрэбна публіцысту грамадзянскае сумленне. Яго і дэманструюць журналісты «МГ» на чале са сваім галоўным рэдактарам Аляксандрам Хазяніным.

«Маладзечанская газета» мае добры поспех у чытачоў. А з ім — і матэрыяльны. Гэта самаакупнае(!) перыядычнае выданне. Яно паказвае, што не існуе праблемы ў газетным рынку, звязанай з беларускай мовай, а ёсць праблемы з нашым мысленнем, талентам і прафесійнасцю.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра праўлення Беларускай асацыяцыі журналістаў.**

## З рэдакцыйнай пошты

# Народ пачынае прачынацца

Беларускі народ сёння не той, пра які пісаў М.Багдановіч: «...Ты — цёмны, сляпы, быццам крот». І не той, які пад страхам рэпрэсій і ГУЛАГаў мог паслухмяна выконваць волю камуністычнага правадыра. У наш час патрыятычная плынь у грамадстве расце, свядомасць беларусаў падымаецца ўсё вышэй, асабліва сярод моладзі. Грамадства ў большасці не толькі пасіўна не падтрымлівае русіфікатарскіх, «звышінтэграцыйных» ідэй, як шмат хто са старэйшага пакалення, але ўжо здольнае актыўна пратэставаць супраць антынацыянальнай палітыкі.

З гэтай прычыны і выйшлі на вуліцы — тройчы за адзін месяц — тыя, у каго баліць душа за беларускасць, за сваю Бацькаўшчыну. «А хто там ідзе ў агромістай такой грамадзе? — Беларусы»... Гэта дзесяткі тысяч рашучых людзей выйшлі ў Менску на праспекце імя Ф.Скарыны ў калонах «Чарнобыльскага шляху!» Але ўлада сустрэла іх шчыльнымі кардонамі спецназа і міліцыі, перашкодамі з машын і дубінкамі па галаве. Гістарычныя нацыянальныя сімвалы, бел-чырвона-белы сцяг, як і беларуская гаворка, паслужылі прычынай нападаў і затрымання і пасля мітынгу. А зрабіць злачынцамі Ю.Хадыку і В.Сіўчыка і пасадзіць іх за краты, калі следчыя ізалятары перапоўненыя, — хіба гэта ўсё не ёсць здзек з дэмакратыі?

Пераконванні Старшыні ВС С.Шарэцкага на сесіі ў неабходнасці яднання нацыі і ў той жа час ганьбаванне нацыянальна-дэмакратычнага руху, дэпутатаў, якія прымалі ўдзел у мітынгах, выклікаюць, па меншай меры, здзіўленне. Ды ці ж не гэта і ўносіць раскол у беларускае грамадства, дзеліць яго на сваіх і чужых?

Дэмакратычны рух у абарону нацыянальнай ідэі пашыраецца. Гэта адчуваецца на месцах. У Ашмянах таксама быў арганізаваны пікет пад гістарычным сцягам з плакатам «Мы за незалежнасць Беларусі».

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ,**
**ветэран педагагічнай працы.**

# «Горкая трава» ў Рагачове

Пра Рагачоў у мяне шмат добрых успамінаў і пачуццяў. Вясной, калі паводка, горад выглядае як маленькі цудоўны востраў сярод мора. Успамінаюцца радкі, якія былі надрукаваны ў мясцовай газеце «Свабоднае слова»:

*Дзе Днепр і Друць рупліва вёснамі*
*Выносяць воды ў стан лугоў,*
*Там, быццам параснік на ростанях,*
*Стаіць мой горад Рагачоў.*

Зразумела, хочацца бачыць яго больш прыгожым і добраўладкаваным. Сустракаю знаёмых, хтосьці паказвае мне «Народную газету» і кажа:

— Вось глядзіце, як работнікі рагачоўскага завода «Дыяпраектар» падтрымліваюць пагадненне аб інтэграцыі з Расіяй.

На першай старонцы газеты бачу шмат подпісаў, сярод якіх сустракаюцца знаёмыя. Мне вядома, што на гэтым прадпрыемстве працуе не мала прыезджых з Казані, Краснагорска, з Украіны, і большай часткі з іх, кажучы па-расійску, «до фонаря» і мова беларуская, і культура, і суверэнітэт. Але як быць мне, калі на маёй радзіме гэта мне ўсё патрэбна?.. Зноў і зноў чую, што, калі чалавек цягнецца да сваёй мовы, культуры, то ў нас, на Беларусі, ён — нацыяналіст, хаця, гляджу ў слоўніку, нацыяналізм — гэта такая палітыка, якая грунтуецца на перабольшванні нацыянальных рыс, культываванні перавагі адных нацый над другімі. Але ў нас і ў гэтым пытанні, як у многіх іншых, усё наадварот? Ну, а той, хто культывуе перавагу расійскай мовы над беларускай — як павінен называцца? Інтэрнацыяналістам, шавіністам ці халуём?

З гэтымі думкамі я ішоў па галоўнай вуліцы з вядомай назвай. На падыходзе да завода «Дыяпраектар» убачыў новы магазін «Друть». «Чаму не Друць, — думаю. — Няўжо гэтым людзям абыякава тое, што калі ўжыць літару «ц», слова «Друць» больш прыемнае, больш сваё, роднае! Ды і каля маста так напісана назва гэтай ракі.

— Што там Друць, — кажа стрэчаная знаёмая жанчына. — Мае дзеці чатыры гады вучыліся ў беларускамоўнай школе, а цяпер іх перавялі на расійскую мову.

Не мала чуў размоў на гэтую тэму. Балючая яна.

«А можа гэта такая палітыка, — разважаю, — няхай ламаюць сабе галаву людзі, ці трэба беларусам прыкідвацца расійцамі — будуць менш углядацца ў сваё эканамічнае становішча. Як у кітайскай, здаецца, прымаўцы: «Ешце горкую траву — лепш адчуеце салодкае жыццё».

**Антон МАНКЕВІЧ.**

## Уражанні

### Свята — забіваць

Напярэдадні свята Перамогі заехаў у сядзібу БНФ. Хлопцы расказваюць:

— Званіў ветэран. Сказаў, што заўтра ў іх свята, прыйдуць сюды, усіх пазабіваюць.

Падумалася: гэта да якога ж стану трэба давесці прапагандай чалавека, каб для яго святам было — забіваць? Калі ён — сапраўдны ветэран, то год яму ўжо — за 75. Трэба думаць пра душу, трэба рыхтавацца да сустрэчы з Богам. А ў яго свята — забіваць.

### Пра дакладнасць фармулёвак

Атрымаў газеты, у якіх змешчаны віншаванні трох вышэйшых кіраўнікоў Беларусі з Днём Перамогі. Чытаю віншаванне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шарэцкага: «...Пяцьдзесят адзін год мінуў з таго светлага веснавога дня — 9 мая 1945 года, калі свет упершыню адзначыў Дзень Перамогі. Завяршылася Другая сусветная вайна...» Чытаю віншаванне прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М.Чыгіра: «...Пяцьдзесят адзін год таму змоўклі апошнія залпы самай крывавай у гісторыі чалавецтва вайны...»

Падумалася: нашым людзям можна несці любую лухту, мы настолькі да яе прызвычаіліся, што амаль ніколі не ўнікаем у сэнс прачытанага ці пачутага з вуснаў высокага кіраўніка. Напэўна, любы чалавек, які адолеў 7 класаў школы, ведае, што 9 траўня 1945 года скончыліся баявыя дзеянні ў Еўропе, а Другая сусветная вайна скончылася ў верасні 1945 года падпісаннем мірнага дагавора паміж ЗША і Японіяй. Напэўна і кіраўнікі нашай дзяржавы гэта ведаюць. Аднак адсутнасць зваротнага ўздзеяння грамадства на кіраўніцтва, фактычная незалежнасць кіраўніка ад народа спараджае інтэлектуальную ляноту: навошта думаць, навошта выбіраць словы, усё роўна ўсё, што я скажу, — праўда, усё, што я напішу, — закон.

Між тым, у іншых краінах па выказваннях кіраўнікоў мяркуюць пра дзяржаву і ў залежнасці ад гэтага будуюць свае адносіны з ёй. І тады нядбайнасць гістарычная ці філалагічная перарастае ў праблему эканамічную. Хто падлічыць тыя страты, якія Беларусь ужо панесла ў выніку неахайнасці ў выказваннях нашых вышэйшых кіраўнікоў?

### Цагліна ў падмурку

Штодня езджу на працу па вуліцы Арлоўскай, якая праходзіць праз Парк прыязні народаў. Той самы парк, у якім устаноўлены камень з нагоды чарнобыльскай бяды. Той самы камень, побач з якім сёлета ўвесну пачалі будаваць царкву, дзе праваслаўныя беларусы змогуць памаліцца за ахвяр Чарнобыля. Тую самую царкву, у сцяну якой 26 красавіка Прэзідэнт Лукашэнка ўласнаручна ўмураваў свой камень пад воплескі «преданного народа», звезенага сюды па разнарадцы.

У які б час я ні праязджаў побач з будуемай царквой да 26 красавіка, там працавалі будаўнікі. Пасля 26 красавіка я не бачыў іх ні разу. І аднойчы падумалася: лёс гэтай царквы паўтарае лёс нашай дзяржавы, лёс усяго, да чаго дакранулася рука нашага Прэзідэнта. І думаючы пра «аднаўлены Саюз», я думаю пра тое, што ў яго фундамент беларускі Прэзідэнт таксама паклаў сваю цагліну.

**У.АНЦУЛЕВІЧ.**

# Спіс беларусаў, палеглых у баі пад Монтэ-Касіна

**Увага.**

У спісе падаём толькі прозвішча і мясцовасць нараджэння.

У ніжэй гаданым спісе налічваецца абазнаных намі беларусаў 264 (з агульнага ліку 1078 забітых).

Укладанне намі спісу праводзілася пры помачы ўдзельнікаў у Монтэ-Касінскім баі беларусаў, застаўшыхся жывымі.

Удзельнікі гэтыя цвердзяць, што лічба 262 далёка няпоўная.

Ня выключана, што пару асоб папала ў наш спіс, што за жыцця свайго лічылі сябе палякамі. Няхай нам выбачыць. Ходзіць нам не пра нейкія палітычныя камбінацыі, а пра пададзенне вестак аб загінуўшых беларусах іх родным і знаёмым, а з другога боку, пра ўшанаванне памяці сваіх суродзічаў і адцемленні трагедыі беларускай моладзі, што гінула ў гэтую вайну на розных фронтах пад няроднымі ім сцягамі.

У ліку апазнаных 262 беларусаў, палеглых пад Монтэ-Касіна, налічваецца:

1 капітан
2 паручнікі
7 падпаручнікаў
9 падхарунжых
5 сяржантаў
11 звязных (плютуновых)
35 капралаў



1. Амбражэй Эдуард — Беласток.
2. Андрэеўскі Уладыслаў — Бельск.
3. Анхім Габрук — п.Ваўкавыск.
4. Анісімаў Пётра — г. Браслаў.
5. Арнольд Яа — п.Ваўкавыск.
6. Аўнгур Станіслаў — г.Валожын.
7. Аўдзей Ігнат — г.Наваградак.
8. Бачэліс Нікодэм — Свянцяны.
9. Багінскі Мар'ян — Граева.
10. Бакуноўскі Гэнрык — г.Беласток.
11. Бачэран Сьцяпан — Беласток.
12. Балай Павал — п.Паставы.
13. Бандза Бэнэдыкт — п.Ковель.
14. Батуро Ізыдор — г.Свянцяны.
15. Бэлька Сыльвэстар — п.Трокі.
16. Блажэвіч Вінцэнты — п.Ашмяны.
17. Багдаевіч Аўген — Петраград.
18. Багдан Балеслаў — п.Шчучын.
19. Банцэвіч Уладыслаў — Пінск.
20. Босакаў Атанозь — п.Браслаў.
21. Борчык Эдвард — Пінск.
22. Бортноўскі Сьцяпан — Калуга.
23. Барысэвіч Аркадзь — п.Ліда.
24. Барсук Вацлаў — Беласток.
25. Боўт Мікола — г.Лунінец.
26. Брансэвіч Альбін — Свянцяны.
27. Буховец Александра — Стоўбцы.
28. Булай Аляксей — Гародня
29. Букацін Сымон — п.Браслаў.
30. Бурба Вітаўт — п.Аўгустова.
31. Бурса Мікола — п.Беласток.
32. Быкоўскі Анатось — Рыга.
33. Буйко Вацлаў — Вільня.
34. Каюн Аляксандра — г.Валожын.
35. Царык Ян — п.Вілейка.
36. Цыноўскі Уладыслаў — г.Ліда.
37. Чабан Мечыслаў — п.Шчучын.
38. Чабановіч Зыгмунт — п.Стоўбцы.
39. Чаплінскі Збігнеў — Гародня.
40. Чарноўц Бэрнард — п.Ліда.
41. Чугаеўскі Міхаіл — п.Пінск.
42. Хіневіч Ян — п.Стоўбцы.
43. Халовач Вінцэсь — п.Маладзечна.
44. Хойна Станіслаў — п.Здалбуноў.
45. Хомчык Міхал — г.Гародня.
46. Хвойніцкі Антон — п.Ліда.
47. Дэмэнцьеў Міхаіл — Вільня.
48. Дэмідовіч Аляксей — п.Дзісна.
49. Даўгапол Станіслаў — п.Стоўбцы.
50. Драчынскі Ігнась — п.Валожын.
51. Дрэйман Ян — Б.Падляска.
52. Дубіцкі Пётра — п.Свянцяны.
53. Дубовік Аляксей — п.Паставы.
54. Файфус Казімер — г.Пінск.
55. Філіпчык Язэп — Ліда.
56. Франкевіч Павел — Наваградак.
57. Гайдэмскі Мар'ян — п. Столін.
58. Гайдэмскі Гэронім — п.Столін.
59. Гяро Мячыслаў — п.Саколка.
60. Гедройць Антон — п.Ашмяны.
61. Геляжун Станіслаў — г.В.Трокі.
62. Гінялюк Міхаіл — г.К.-Кашыр.
63. Гіруць Вінцусь — п.Свянцяны.
64. Грахоўскі Язэп — г.Беласток.
65. Гражынскі Вітаўт — г.Ліда.
66. Горскі Станіслаў — г.В.-Трокі.
67. Гутоўскі Ян — п.Валожын.
68. Гузоўскі Язэп — Бельск-Падляскі.
69. Галіцкі Станіслаў — п.Валожын.
70. Гапановіч Фэлька — п. Вілейка.
71. Гандалеўскі Гэнрык — в.Браслаў.
72. Грынкевіч Казімер — п.Гародня.
73. Галаўня-Грынкевіч Балеслаў — г.Стоўбцы.
74. Галуб Сьцяпан — п.Валожын.
75. Ігнатовіч Вячэслаў — Вільня-Трокі.
76. Іваноўскі Уладыслаў — п.Бела-Падл.
77. Івашко Браніслаў — Наваградак.
78. Якімчык Яўхім — г.Ваўкавыск.
79. Янкоўскі Станіслаў — Валожын.
80. Янухта Уладыслаў — п.Стоўбцы.
81. Яроцкі Вінцэсь — п.Беласток.
82. Ясінскі Юры — п.Лунінец.
83. Ерамовіч Язэп — Вільня-Трокі.
84. Еўтух Базыль — п.Столін.
85. Юшкевіч Юльян — Ваўкавыск.
86. Юшкевіч Павел — Гародня.
87. Юшкевіч Сьцяпан — п.Пінск.
88. Юран Сьцяпан — п.Браслаў.
89. Юрчык Багуслаў — Беласток.
90. Юрчэлевіч Уладыс — Валожын.
91. Каліш Мікола — п.Гародня.
92. Камінскі Рышард — п.Паставы.
93. Каняба Браніслаў — Свянцяны.
94. Керэня Тадэуш — п.Гародня.
95. Кімша Балеслаў — п.Вільня.
96. Клімашэўскі Язэп — Беласток.
97. Клімовіч Часлаў — Вільня.
98. Кагорка Зэнон — Вільня-Трокі.
99. Канопка Пётра — г.Свянцяны.
100. Копысьць Сьцяпан — Смаленск.
101. Карнатоўскі Мікола — Кобрын.
102. Косьціянчык Гэнрык — Бел-Пад.
103. Ковалько Мечыслаў — Беласток.
104. Казак Вінцэсь — п.Валожын.
105. Казакевіч Казімер — п.Паставы.
106. Казлоўскі Тадэуш — Бел-Падл.
107. Кажухоўскі Балес — Паставы.
108. Красінскі Ігнат — Вільня-Трокі.
109. Крэчаноўскі Кастусь — Бара-чы.
110. Куновіч Пётра — п.Вілейка.
111. Купрыян Тадэуш — п.Валожын.
112. Кузьніцкі Эдуард — Вільня-Тр.
113. Квасьняк Янка — п.Белая.
114. Лебядзевіч Юльян — п.Ліда.
115. Легавец-Бернюкевіч Лявон — Ліда.
116. Лянчэўскі Часлаў — п.Паставы.
117. Лешчэвіч Антон — п.Вілейка.
118. Лешка Станіслаў — Маладзечна.
119. Лешко Станіслаў — Маладзечна.
120. Любчык Міхал — п.Брэст-Літ.
121. Людко Модвін — п.Ваўкавыск.
122. Люкевіч Александра — Нясвіж.
123. Лахута Паўлюк — п.Нясвіж.
124. Лата Язэп — п.Янаў.
125. Лабаноў Анатоль — Наваградак.
126. Ломашко Нікодэм — Ваўкавыск.
127. Ламэйка Антон — Баранавічы.
128. Лазічонак Эдуард — п.Паставы.
129. Лутовіч Янка — п.Вільня.
130. Мацееўскі Станіслаў — Сувалкі.
131. Мацееўскі Зыгмунт — Навагр.
132. Макарэвіч Напалеон — Вільня.
133. Маляўскі Янка — Наваградак.
134. Маціноўскі Александра — г.Аўгустоў.
135. Марковіч Язэп — п.Браслаў.
136. Мартуль Станіслаў — п.Дзісна.
137. Мартун Пётра — Вільня-Трокі.
138. Масальскі Адольф — Свянцяны.
139. Матушак Робэрт — п.Пінск.
140. Матушэўскі Юльян — Беласток.
141. Мазец Станіслаў — Ваўкавыск.
142. Міцкоўскі Юры — п.Нясвіж.
143. Міхалеўскі Лявон — Браслаў.
144. Мікула Язэп — п.Пінск.
145. Міеневіч Язэп — Звячэл.
146. Мішкін Антон — Вільня-Трокі.
147. Мішталеўскі Пётра — п.Ломжа.
148. Мосевіч Антон — п.Ашмяны.
149. Мурашка Дамінік — Маладзечна.
150. Мышко Віктар — п.Дзісна.
151. Наўмовіч Юры — Беласток.
152. Недзьвецкі Уладыслаў — п.Вільня-Трокі.
153. Новак Тадэуш — п.Вільня-Тр.
154. Новіцкі Лёнгін — п.Паставы.
155. Олехновіч Паўлюк — п.Пінск.
156. Олешкевіч Мар'ян — п.Ваўкав.
157. Олешковіч Уладыслаў — п.Ваўкавыск.
158. Олізэр Нікодым — п.Гародня.
159. Ошкроба Зыгмунт — п.Аўгустоў.
160. Острэйка Кастусь — п.Ліда.
161. Остроўскі Александра — Столін.
162. Палацкі Юльян — п.Маладзечна.
163. Пашкоўскі Янка — п.Столін.
164. Пашкоўскі Уладзімер — п.Валожын.
165. Паўлоўскі Леонард — Валожын.
166. Пехацінскі Мар'ян — Б.-Літоўск.
167. Пясьцік Габрыель — п.Ломжа.
168. Пекарт Вячаслаў — Гародня.
169. Пяткевіч Вацлаў — п.Паставы.
170. Пінчук Уладыслаў — Шчучын.
171. Пятроўскі Уладыслаў — Баранавічы.
172. Піртан Антон — п.Браслаў.
173. Піваварчык Мікола — Надворная.
174. Почыкоўскі Балеслаў — п.Валожын.
175. Протас Мікола — п.Нясвіж.
176. Пупко Казімер — Менск.
177. Пушко Базыль — п.Пружаны.
178. Рачкоўскі Багдан — Вільня.
179. Рачкоўскі Паўлюк — п.Саколка.
180. Рады Багдан — Кобрын.
181. Радзівіловіч Янка — Сербушкі.
182. Рагель Мацей — п.Валожын.
183. Рамза Тодар — п.Браслаў.
184. Ратасевіч Кастусь — Сувалкі.
185. Раўба Язэп — п.Нясвіж.
186. Ройсевіч Юры — Галобоўка.
187. Раманоўскі Мікола — п.Вілейка.
188. Рухала Часлаў — Ломжа.
189. Рудзінскі Збігнеў — Свянцяны.
190. Рунга Оттон — Ваўкавыск.
191. Рынкевіч Язэп — Свянцяны.
192. Сакута Лаўрын — п.Пружаны.
193. Сантоцкі Янка — п.Ліда.
194. Саўчук Янка — п.Здалбунаў.
195. Шаюн Александра — п.Вілейка.
196. Шарэйко Максімільян — п.Ваўкавыск.
197. Шапіра Гальяш — Наваградак.
198. Шэршановіч Адвар — Бельск-П.
199. Шостак Раман — Хоцін.
200. Сідоранка Вацлаў — Баранавічы.
201. Сідаровіч Александра — п.Лунінец.



202. Сідаровіч Язэп — Дубно.
203. Сечко Юры — п.Стоўбцы.
204. Селява Язэп — Менск.
205. Сеньневіч Рышард — Менск.
206. Сеньневіч Андрэй — Менск.
207. Селянюк Кароль — п. Б.-Падл.
208. Сенкоўскі Казімер — г.Пінск.
209. Скаўронскі Янка — п.Аўгустоў.
210. Шкель Янка — п.Вілейка.
211. Сьліпко Язэп — п.Саколка.
212. Сланік Браніслаў — п.Шчучын.
213. Слуцкі Александра — Маладзечна.
214. Смаль Сьцяпан — Броды.
215. Снарскі Бернард — п.Саколка.
216. Собчак Сьцяпан — Пінск.
217. Сохань Уладыслаў — Беласток.
218. Сакалоўскі Андрэй — Свянцяны.
219. Сакалоўскі Балеслаў — Ломжа.
220. Станулевіч Балеслаў — п.Аўгустоў.
221. Станкевіч Язэп — Валожын.
222. Сташэўскі Станіслаў — п.Ліда.
223. Старановіч Альфонс — Саколка.
224. Стэрыновіч Мечыслаў — п.Браслаў.
225. Судэніс Казімер — Вільня-Тр.
226. Сурма Пётра — п.Кобрын.
227. Шуліневіч Янка — п.Дзісна.
228. Шуневіч Язэп — Броды.
229. Шурней Уладыслаў — п.Ліда.
230. Шырма Базыль — п.Пружаны.
231. Швэд Віктар — Сувалкі.
232. Тгібэргэр Язэп — п.Белая.
233. Тімешэк Язэп. — п.Пружаны.
234. Тачылоўскі Эміль — п.Аўгустоў.
235. Кокарэвіч Тодар — п.Маладзечна.
236. Троян Пётра — Нью Ёрк.
237. Трусіло Янка — п.Шчучын.
238. Туміловіч Янка — п.Стоўбцы.
239. Тур Казімер — п.Бела-Падл.
240. Учкароніс Адам — п.Ліда.
241. Ушак Зыгмунт — п.Браслаў.
242. Усік Міхал — п.Маладзечна.
243. Васілеўскі Янка — п.Гародня.
244. Вярбіцкі Юльян — п.Паставы.
245. Вінскі Язэп — п.Ваўкавыск.
246. Вітшыц Ян — п.Валожын.
247. Вобчыц Браніслаў — г.Вільня.
248. Воўк Казімер — п.Ваўкавыск.
249. Врублеўскі Язэп — п.Шчучын.
250. Высоцкі Балеслаў — Вільня-Тр.
251. Высоцкі Міхал — п.Стоўбцы.
252. Зайкоўскі Вацлаў — Беласток.
253. Зарэцкі Юстын — п.Паставы.
254. Зарэцкі Казімер — п.Саколка.
255. Завадзкі Уладыслаў — Ашмяны.
256. Званюк Казімер — п.Вільня-Тр.
257. Зэмбала Мечыслаў — Беласток.
258. Зуйко-Шэстакоў Лявон — Астувы.
259. Жак Антон — п.Баранавічы.
260. Жэбрунь Янка — п.Столін.
261. Жук Рыгор — п.Нясвіж.
262. Жыла Язэп — Пжэворск.
263. Жывалеўскі Барыс — Гародня.
264. Жыжа Янка — п.Баранавічы.

**Ад рэдакцыі:**

Шаноўныя чытачы! Мы падаём гэты спіс палеглых і спадзяёмся, што вы зацікавіцеся прозвішчамі вашых землякоў ды паспрабуеце даведацца, адкуль, з якой вёскі яны пайшлі на вайну. Можна напісаць невялікую інфармацыю (нататку) для мясцовай газеты, спаслаўшыся на публікацыю прозвішча ў «Нашым слове». Гэта будзе таксама і рэкламай нашай газеты.

# Новыя змагары

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

мерапрыемства, а Валерый пад час канцэрта ў Палацы моладзі, што заканчваў праграму форуму, атрымаў намінацыю ў галіне сувязяў з грамадскасцю.

ЗБМВ атрымаў дазвол ад мэрыі Вільні на правядзенне акцыі па выгнанні д'ябла з беларускай Амбасады ў Летуве. А нагодаю паслужыць той факт, што Амбасада Рэспублікі Беларусь у Летуве не толькі праводзіла антынацыянальную прапаганду ў адносінах да беларусаў Віленшчыны, але і неаднаразова парушала законы Летувіскай Рэспублікі, рабіла спробы фізічнае расправы над некаторымі асобамі, «нявыгаднымі» для вышэйшага прадстаўніка Беларусі і ягоных памагатых. Штодня грашовы абарот Амбасады Беларусі ў Летуве складае блізу 700000, а сябрам Таварыства беларускае культуры ў Летуве дзеля таго, каб заплаціць за арэнду памяшкання, неабходнага для важнае імпрэзы, прыйшлося здаваць кроў. Як Амбасада Рэспублікі Беларусь ставіцца да сваіх суайчыннікаў у Летуве, так ні ставіцца ніводная Амбасада цывілізаванае, нават не хрысціянскае дзяржавы да сваёй дыяспары, тым больш, што беларусы Летувы жывуць на сваёй этнічнай тэрыторыі.



Старшыня ЗБМВ В.Савянкоў заклікаў Пракуратуру Летувіскае Рэспублікі ўзбудзіць крымінальную справу супраць персаналу Амбасады РБ у Летуве па выпадку замаху на жыццё ў адносінах да сваёй асобы, пад час банкету, наладжанага гэтай Амбасадай з нагоды калядных святаў. Пасля моцнага атручвання пацярпелы В.Савянкоў быў дастаўлены ў рэанімацыю аднаго з віленскіх шпіталяў, дзе прайшоў курс лячэння. Пасля гэтага непрыемнага інцыдэнту на В.Савянкова ды яшчэ аднаго сябра ЗБМВ быў зарганізаваны гвалтоўны напад з мэтаю нанесці фізічныя пашкоджанні і гэтым напужаць і дэмаралізаваць сяброў ЗБМВ, пазбавіць іх магчымасцяў і энтузіязму змагацца з палітыкай Амбасады Беларусі.

Мэты дзейнасці ЗБМВ вельмі шырокія: знаёміць моладзь з культурай Бацькаўшчыны, а ў выніку — прабудзіць нацыянальную годнасць, цікавасць да ўсяго таго, што павінна лічыцца святыняй дзеля кожнага беларуса. На жаль, ад цяперашніх уладаў Летувы ніякай дапамогі чакаць не даводзіцца, бо ў разгортванні нацыянальна свядомых рухаў беларусаў, ды і іншых нацыянальных меншасцяў, што жывуць у Летуве, няма зацікаўлення. ЗБМВ вымушаная звярнуцца з прашэннем да дзяржаўных і грамадска-палітычных арганізацый, а таксама і да камерцыйных структураў Беларусі па якую-небудзь дапамогу.

У сёлетняй праграме дзейнасці новых змагароў за беларушчыну шмат цікавых мерапрыемстваў, на якія могуць быць запрошаныя таксама і госці з Беларусі, найперш тыя, дзейнасць арганізацыяў якіх цесна суадносіцца з мэтамі і планамі ЗБМВ. Сярод мяркуемых імпрэзаў — афармленне і абмеркаванне праграмы стварэння Цэнтра беларускае культуры ў Вільні, стварэнне аргкамітэта падрыхтоўкі З'езда беларускае моладзі свету ў Вільні, вандроўкі па гістарычных мясцінах Вялікага Княства Літоўскага, арганізацыі акцыі графіто на тэму Летувіска-Беларускага сяброўства, арганізацыя экскурсіяў беларускіх школьнікаў у Вільню, арганізацыя выставы габелену і кафлі з Беларусі, а таксама экалагічная экспедыцыя па Віленшчыне. 25 сакавіка ў «Дзень Волі», на 75-я ўгодкі ўтварэння БНР, ЗБМВ арганізавала фотавыставу ў Таварыстве беларускай культуры ў Вільні, а таксама правяло ўрачыстую акцыю сшывання бел-чырвона-белага сцяга.

Рада ЗБМВ зацікаўленая ў любых добрых кантактах з беларускімі патрыятычнымі арганізацыямі дзеля інфармацыйнага і культурнага абмену, а таксама дзеля сумеснага ўдзелу і падрыхтоўкі імпрэзаў і святкаванняў як у Летуве, так і на Беларусі.

З гэтае нагоды паведамляем адпаведныя каардынаты ЗБМВ:

Lietuvos Respublika, Vilnius — 56,
a/d 1345. «Vilnius Baltarusių Jaunimo Sąjunga».
Tel. (0122) 41-21-96, 62-61-95.
Lietuvos Respublika, Bankas «Hermis»
a/s 5609255 (разліковы) v/s 9089 (валютны), kodas 260101730.
VBJS Vadovas Valerijus Savenkovas.
Кіраўнік ЗБМВ Валерый Савянкоў.

**Раман КАВАЛЬЧУК,**
**віцэ-старшыня маладзёжнай суполкі Партыі БНФ.**



**Здымак 1.** Сябра Рады Згуртавання беларускай моладзі Віленшчыны і сябры Таварыства беларускай культуры: **Аляксандр Трусаў, Валерый Савянкоў, Лявон Луцкевіч, Аляксей Анішчык.**

**Здымак 2.** Сябры Згуртавання беларускай моладзі Вільні на могілках у Вільні (да ўгодкаў Слуцкага паўстання).

# ВЕРУЕМ

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук*

## Духоўны асяродак на Супраслі

У ваколіцах (20 кіламетрах) ад Беластока (Рэспубліка Польшча) знаходзіцца старажытны помнік старабеларускай культуры і дойлідства Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр, заснаваны на беразе р.Супраслі.

Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр, а пазней сусветна вядомая Супрасльская Лаўра, знакамітыя ў славістычнай навуцы тым, што ў гэтых сценах быў складзены Супральскі зборнік 1519 г., які змяшчае самы поўны спіс беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. Супрасльскі рукапіс (ці як называюць яго ў замежнай навуцы, Супрасльскі кодэкс) з'яўляецца адным з самых старажытных помнікаў усходнеславянскага пісьменства, мае ў сваім складзе словы-павучэнні Іаана Златавуста і Тураўскае Евангелле. Менавіта ў сценах Супрасльскай Лаўры выспявала ідэя нацыянальнага духоўнага адраджэння, пазней ідэя стварэння кананічна вытрыманага і аднаго з самых дакладных Астрожскага перакладу-зводу Біблії.

У сярэдзіне XVI ст. Супрасльская Лаўра займае не толькі вядучыя пазіцыі сярод праваслаўных манастыроў Вялікага Княства Літоўскага, але і становіцца эпіцэнтрам рэлігійна-літаратурнага жыцця Кіеўскай мітраполіі. Паводле сцвярджэнняў расійскіх, польскіх і ўкраінскіх даследнікаў, захавалася даволі шмат твораў падляшан першай паловы—сярэдзіны XVI ст., пераважна недаследаваных і практычна невядомых шырокай грамадскасці. Зазначым, што ў сярэдзіне XVI ст. архімандрыт Супрасльскага манастыра Сергій Кімбар выступае з уласнай праграмай перакладаў Біблії на старабеларускую мову. Паступова ў падляшскім асяродку склаўся літаратурна-рэдактарскі Савет, куды ўваходзілі не толькі братчыкі, мяшчане, прадстаўнікі духавенства, шляхты, але і адзінаверцы-суайчыннікі князі Астрожскія і Слуцкія, будучы канцлер Яўстафій Валовіч, каралеўскі пісар Міхал Гарабурда, акрамя архімандрыта Сергія Кімбара, пратапоп падляшскі Нестар, будучы патрыяршы Экзарх, былы ігумен Троіца-Сергіева манастыра-лаўры, вучань Максіма Грэка, славуты сусветна вядомы праваслаўны кніжнік і духоўны настаўнік старац Арцемій.

Захавалася сведчанне, што 16 верасня 1544 года сам польскі кароль са світай наведаў манастыр і прыняў удзел у праваслаўным набажэнстве: «Въ лето отъ начала миру 7052-е, индиктикона 2. Септемврия месяца 16, в неделю, на память великомученици Евфимии всехвалное, Жикгимунт Август, корол полскый, великий князь литовский и иных панств господарь и дедич, короля Жикгимунтов сын и Казимира Якгаиловича внук, бысть в дому Богородици обители Супрясльское с многыми велможами своими , церковнаго и местнаго видения и молебнаго пения, в святой пресветлой церкви Богородици отъ начала даже и до конца слушавъ, и внутръ святилища сиречь олтаря бывъ, и на святой трапезе, святых евангелии и честных крестов и всех сосудов священных оглядев, и по монастырю походив, и в трапезницы быв, и милостину вбогим дав. И абие паки во своя со вмилением и кротостию Богородицу благодаръствуя, со всеми яже о нем, возвратися». (Łabyncew Jurij, Łarisa Szczawinska. W mieście zwanym Zabłudowem. Białystok, 1995.) Такім чынам, у XVI стагоддзі Супрасльская Лаўра сталася сапраўдным духоўным цэнтрам славянскага свету. Нездарма знакамітая Баркулабаўская хроніка заканчваецца згадваннем пра гэты духоўны асяродак: «Во второк разъехалися з Берестя. Митрополит ехал до монастыря Супресля».

Уздым і ўзнікненне гэтага фарпоста духоўнасці быў звязаны з родам Хадкевічаў. Яны мелі цэнтр сваіх уладанняў у Гарадку. На мяжы XV—XVI стст. Аляксандр Хадкевіч як набожны хрысціянін у 1498 г. заснаваў манастыр у гонар св. Іаана Багаслова. Манахамі сталі інакі, запрошаныя Хадкевічам з Кіева-Пячэрскай Лаўры. Іншае паданне сведчыць, што манахамі былі інакі з Афона. Двума гадамі пазней манахі папрасілі перанесці манастыр у больш спакойнае месца. Уладальнік згадзіўся. Паводле падання, манахі, спадзеючыся на волю Божую, падрыхтавалі драўляны крыж і пусцілі па водах Супраслі: дзе затрымаецца крыж — і быць манастыру.

Крыж праплыў 20 км і затрымаўся ў гушчарах Блудаўскай пушчы (зараз Крышчанская пушча), ва ўрочышчы Сухая Груда. На стромкім рачным беразе манахі ўзвялі свае келлі. Першы ігумен Пафнуцій (што паходзіў з Бельска і пачаў свой манашаскі подзвіг у мясцовым манастыры) дабраслаўляе будаўніцтва сабора, асвечанага ў гонар Дабравешчання Божай Маці. Сабор быў пабудаваны ў абарончым гатычным стылі (падобна як царква ў Сынкавічах), распісаў яго майстар з Сербіі Нектарый. Манахі неслі строгі аскетычны подзвіг, жылі некаторыя з іх у пустэльнях па ўскраінах Блудаўскай пушчы, камплектавалі і збіралі багатую манастырскую бібліятэку, сярод кніг якой была нават Чэцця-Мінея XI ст. У 1505 годзе патрыярх канстанцінопальскі Іахім дабраславіў і пасвяціў абіцель. Пасля уніі больш за 10 гадоў манастыр заставаўся праваслаўным. Калі мітрапаліт Іларыён Масальскі быў адсунуты са сваёй пасады, многія манахі падаліся ў верныя праваслаўю бельскія і драгічынскія манастыры. У Супрасльскай Лаўры дзейнічаў адзін з буйнейшых старабеларускіх (увогуле славянскіх) выдавецкіх цэнтраў, у друкарні было выдадзена звыш 400 кніг на старабеларускай, царкоўнаславянскай і старапольскай мовах. У сярэдзіне XVII ст. манастыр быў адноўлены як базыльянскі, аднавіла дзейнасць і друкарня. Уздым манастырскага жыцця прыпадае на той час, калі архімандрытам быў Леў Кішка. У 1796 г. Беласточчына ўваходзіць у склад Прусіі пры епіскапе уніяцкім Вісlоцкім. Да 1837 года манастыр існаваў як уніяцкі. Уздым манастырскага жыцця стаў відавочным пры архімандрыце Мадэсце, дарэчы, аўтару першай манаграфіі пра Супрасль. У міжваенны перыяд польскія ўлады манастыр закрылі. У 1944 г. Дабравешчанскі сабор разбурылі пры адступленні нямецкія войскі; у жніўні ён быў узарваны. На пачатку 80-х гадоў па дабраславенні Уладыкі Савы, архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага, пачалася адбудова сабора. У 1993 г. актывізаваліся рэстаўрацыйныя работы згодна пастановы польскага ўрада. З 90-х гадоў пачало аднаўляцца манастырскае жыццё. Праходзілі канферэнцыі і навуковыя семінары. Цяпер 12 манахаў на чале з архімандрытам Міронам, ігуменам Свята-Дабравешчанскага мужчынскага манастыра нясуць тут паслушэнства.



*(Пра абраз Божай Маці Супрасльскай Адзігітрыі чытайце ў наступным выпуску «Веруем».)*



**У мястэчку Лагішын Пінскага раёна здаўна жылі вызнаўцы двух галоў рэлігійных канфесій — праваслаўя і каталіцтва. Насупраць стаялі касцёл і царква. Ладзяць паміж сабой і святары: настаяцель Свята-Прэабражэнскай царквы Уладзімір Агіевіч і ксёндз касцёла Святых Пятра і Паўла Міраслаў.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БелТА.**

***Да 2000-годдзя хрысціянства***

## Першыя ерасі ў хрысціянскай Царкве

Пакаленне хрысціян, якое ведала Апосталаў і першых вызнаўцаў Хрыста, працягвала іх дзейнасць і навуку. Але часам ім не ўдавалася пазбегнуць дактрынальных памылак, якія распаўсюджвалі Керынціяне, Эбіяніты, Элказаіты і Гностыкі.

Хрысціянства прымалі ў большасці дарослыя людзі, свядомасць якіх сфармавалася пад уплывам мазаізму і габрэйскай культуры ці політэізму і культуры элінскай. Увядзенне даўжэйшага прыгатавання да хросту, з тлумачэннем сымболю веры, не ўхіляла небяспекі своеасаблівай інтэрпрэтацыі хрысціянскіх праўдаў веры.

Раней за іншых заўважаюцца дактрынальныя цяжкасці ў навернутых юдэяў, для якіх цэнтральнай праблемай сталі адносіны права Майсея да Евангелля і адносіны Езуса Месіі да Бога Яхвэ. Адрозненні, якія тычыліся праўдаў веры, вялі да памылак і расколаў, выклікаючы паўстанне ерасі. Адрозненні ў галіне права, рэлігійных практык і царкоўнага жыцця вялі таксама да расколу (схізмы). Першая вядомая схізма паўстала ў ерусалімскай Царкве пасля смерці Якуба Малодшага, калі група габрэяў-хрысціян, якая з вялікім рыгарызмам выконвала ўсе патрабаванні права Майсея, не вызнала сапраўднага біскупа Сымона і выбрала сабе біскупам Тэбута.

Не ўсе дактрынальныя памылкі (ерасі) выйшлі з асяроддзя юдэахрысціян. У Палесціне існавалі таксама адломы (секты) афіцыйнай рэлігіі Майсея. Яны прынялі пэўныя элементы хрысціянскай навукі і здаваліся хрысціянскімі сектамі.

Памылковыя навукі, якія паўсталі ў асяроддзі юдэахрысціян, распаўсюджвалі Керынціяне, Эбіяніты, таксама адмысловыя пасланні Псеўдаклеменціны. Гэтыя памылкі розніліся між сабой у дробязях, але неслі агульнае перакананне, што захаванне патрабаванняў майсеевага права абавязковае для збаўлення. Менш згоды было паміж імі адносна навукі Езуса. Паводле Керынта і яго прыхільнікаў Езус быў натуральным сынам Марыі і Язэпа, аднак быў мудрэйшы і справядлівейшы за іншых людзей, таму падчас хросту ў Ярдане сышоў на яго Хрыстос, які абвяшчаў навуку аб невядомым Айцу і рабіў цуды. Гэты Хрыстос перад пакутай пакінуў Езуса, які сам цярпеў, памёр і быў уваскрошаны з памерлых. Керынціяне не былі вялікай сектай.

Элказаіты мелі мала хрысціянскіх элементаў у сваёй навуцы. Гэтую секту заснаваў Элказаі, які жыў на пачатку II ст. на сірыйска-патрыйскім памежжы. У наступным стагоддзі да іх далучылася значная колькасць прыхільнікаў на абшары ад Еўфрата да Тыгра і нават у Палесціне. Крыніцай іх навукі, як яны казалі, была святая кніга божага паходжання, якую анёл даў Элказаі, але яе змест зразумелы толькі для пасвечаных. Фундаментам збаўлення лічылі хрост, які прымалі ў адзенні, абразанне, а таксама захоўвалі шабат і малітву ў накірунку Ерусаліма.

У навуцы Керынта і Элказаі праяўляліся элементы гнастыцызму, які лічыўся ранейшай рэлігійнай плынню, бо прыхільнікі т.зв. вышэйшай веды (па-грэцку gnosis) супрацьпастаўлялі сваё вучэнне навуцы Царквы ўжо ў часы Апостала Паўла. Гнастыцызм абвяшчаў поўнае пазнанне таямніцы Бога і зла, свету і чалавека на падставе аб'яўлення з вышыні. У такім рэлігійным імкненні Царква не бачыла для сябе небяспекі і сама стварыла ўласную гнозу (тэалогію).

Гнастыцызмам завецца памылковы накірунак, які прымаў па-за Божым Аб'яўленнем рэлігійную інтуіцыю, ці аб'яўленне з вышыні. Дзякуючы яму чалавек станавіўся гностыкам, ці ведаючым, пасвечаным, а не толькі веруючым у Бога. Як лічылі гностыкі, гноза аб'яўляла чалавеку яго сапраўдную натуру і несла яму збаўленне. Гнастыцызм выйшаў з паганскага рэлігійнага сінкрэтызму і пераняў шмат элементаў з тагачасных філасофскіх плыняў, у прыватнасці элінскай філасофіі рэлігіі, з поглядаў юдаізму, з дактрыны ўсходніх культаў і іранскага будалізму, хаця часта спасылаўся на аповяды Апосталаў і на навуку самога Хрыста. Гэта багатая і складаная рэлігійная плынь, якую цяжка апісаць як маналітную сістэму веравання.

Гнастыцызм доўгі час быў вядомы толькі з палемічных пісанняў, бо ад IV ст. аўтэнтычныя пісанні знішчаліся. Ён стаў аб'ектам глыбейшых гістарычных даследаванняў, яшчэ не закончаных, бо ў 1945 г. была знойдзена ў Наг Хамадзі (Верхні Егіпет) цэлая гнастычная бібліятэка V ст.

Чаму гностыкі знаходзілі сабе столькі прыхільнікаў? Іх навука давала шырокія адказы на пытанні быцця чалавека пра паўстанне свету, дабра і зла, збаўлення і загубы, спасылалася на царкоўную традыцыю, паказвала гностыкаў як людзей духоўных і як пакаленне вучняў Хрыста, якія тлумачылі і глыбейшы сэнс прыповесцей, абвяшчаемых народу.

**Падрыхтаваў А.Н.**

## Рэлігійная хроніка

У Вялікі Чацвер 1996 г. ксёндз Язэп Булька, пробашч парафіі Мосар, Глыбоцкага дэканата, атрымаў ад Апостальскай Сталіцы ганаровы тытул прэлата. Прэлаты — гэта арцыбіскупы, біскупы, апостальскія адміністратары, вікарыі і прэфекты, а таксама абаты. Гэты тытул надаецца Ватыканам за асаблівыя заслугі перад Касцёлам.

Рашэннем мясцовай вертыкалі Лідскі касцёл айцоў піяраў перададзены Рускай Праваслаўнай Царкве. Прэтэнзіі праваслаўных на гэтую маёмасць ужо неаднаразова гучалі на працягу апошніх гадоў. Пасля падаўлення паўстання 1863 года касцёл быў канфіскаваны ў каталікоў акупацыйнымі ўладамі і перададзены праваслаўнай царкве.

У XX ст., пад час знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы, гістарычная справядлівасць была адноўлена, і касцёл быў вернуты сапраўдным гаспадарам. Пасля 1944 г. тагачаснымі камуністычнымі ўладамі ў будынку касцёла быў размешчаны планетарый. Апошнім часам Лідскі гарвыканкам пакідаў просьбы каталікоў вярнуць іхнюю святыню без увагі. І вось цяпер рашэнне прынята на карысць праваслаўных толькі на той падставе, што яны на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў валодалі храмам. Становіцца ўсё больш відавочным той факт, што расійскае праваслаўе ў Беларусі набывае абрысы дзяржаўнай рэлігіі. У Лідзе ж адзіная праваслаўная парафія св. Панцеляймона перайшла ва ўлонне Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, што вельмі занепакоіла як прадстаўнікоў РПЦ, так і дзяржаўных чыноўнікаў. Таму і быў зроблены такі падарунак нешматлікім лідскім прыхільнікам Маскоўскага Патрыярхату. Відаць, калі справа тычыцца маёмасці, расійскія клірыкі забываюцца на дзесятае Божае прыказанне, якое гучыць: «Не прагні нічога, што не тваё».

Нядаўна ў Гародні адбыўся душпастырскі сімпозіум, прысвечаны становішчу Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. У ім удзельнічалі гарадзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. На сімпозіуме асвятлялася рэлігійная сітуацыя на Беларусі, як яе гістарычны аспект, так і сучасны стан. Прыемна адзначыць тое, што рабочай мовай сімпозіума была абрана беларуская. На ёй чыталіся рэфераты і гаварыліся прамовы. Вышэйшыя беларускія каталіцкія іерархі павярнуліся тварам да мовы свайго народа.

З 5 па 30 верасня 1996 г. у горадзе Івана-Франкоўску на Украіне адбудзецца выстава сучаснай графікі малых формаў, прысвечаная 400-годдзю Берасцейскай уніі. Выставу ладзіць Івана-Франкоўскі Дзяржаўны музей разам з мясцовым Ардынарыятам Грэка-Каталіцкай Царквы, дыяцэзіяльнай дабрачыннай арганізацыяй «Карытас» і рэдакцыяй часопіса «Нова Зоря». Да ўдзелу ў выставе запрашаюцца мастакі з Украіны, Беларусі, Летувы і Польшчы — краін, аб'яднаных у мінулым супольным гістарычным лёсам. Арганізатары спадзяюцца, што розная ментальнасць нашых народаў працягвае захоўваць памяць пра агульную гуманітарную прастору і яе канструктыўныя праявы ў супольным жыцці, у дыялогу канфесій, дзейнасці гістарычных асоб, сакральнай архітэктуры і мастацтве.

ВУЧЫМСЯ

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Пазнаваць свет

(Навуковы стыль)

*Трэба, каб на беларускай мове прыгожа гучалі не толькі мастацкія літаратурныя творы, але і тэхнічныя творы, навуковыя творы, філасофскія творы.*

**Васіль Быкаў.**

*Вучоны водзіць, а невучоны следам ходзіць.*

**З народнага.**

Навуковы стыль — увасабленне навуковага мыслення, форма існавання і захавання ведаў. Асноўнымі адзнакамі мовы ў гэтым стылі выступаюць інфарматыўнасць, абстрактнасць і аб'ектыўнасць. Пры перадачы навуковых звестак важныя таксама доказнасць і аргументаванасць выказванняў, уменне лагічна і паслядоўна адлюстроўваць працэс пазнання, перадаваць развіццё думкі, выразна і зразумела фармуляваць навуковыя ідэі, гіпотэзы. Моўная форма ў такім выпадку павінна перадаваць прычынна-выніковыя сувязі, што ўласціва сістэме складаназалежных сказаў з адпаведнымі злучальнымі сродкамі: *з тым каб; дзеля таго каб; з прычыны; калі то.* Заўвагі, удакладненні, паслядоўнасць выкладу перадаюцца пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі: *паводле меркаванняў; як прынята ў навуковай літаратуры; па-першае; па-другое* і г.д.

Вялікае значэнне надаецца ўменню абстрагаваць, а значыць, карыстацца абстрактнай лексікай *(уяўленне, паглыбленне, раскрыццё, узмацненне, фармаванне; дасканаласць, супярэчлівасць, актуальнасць; зыходзіць, спасылацца, дэталізаваць).* Навуковаму стылю ўласціва тэрміналогія (найменне спецыяльных паняццяў розных сфераў пазнання) — навуковая і тэхнічная, якой карыстаюцца найперш спецыялісты, і грамадска-палітычная, агульнакультурная, пашыраная ў асяроддзі неспецыялістаў — *сцэнар, жывапіс, пленэр, актыў, выбары.*

Адметная абагульненая асоба паведамлення навуковых звестак — аўтарскае **мы** (звычайна кажуць: *Звернемся да аналізу*) і **мы** сукупнасці — як спасылка на калектыўны вопыт чытачоў (Напрыклад: *Слова мы ўяўляем як асноўную адзінку мовы*). Пры гэтым глыбіня, навізна, арыгінальнасць тэксту залежаць ад аўтарскай індывідуальнасці, дасведчанасці ў пэўнай навуковай сферы.

У залежнасці ад формы выкладу і прызначэння навуковых ведаў вылучаюцца тры разнавіднасці навуковага стылю — **уласна-навуковы, навукова-вучэбны** і **навукова-папулярны**, пра якія мы пагаворым у наступных публікацыях.

Практычная стылістыка

# Пра дзяцей і казкі

*«Казкі перажываюцца дзецьмі з большай эмацыйнасцю, канкрэтнасцю, свядомасцю».* У гэтым выказванні з навуковага даследавання гаворыцца пра асаблівасці псіхалагічнага ўспрымання дзяцей. Характарыстыкі псіхалагічных якасцей пералічаны ў аднародным радзе, далучаным да дзеяслова, з якім, нагадаем, павінен спалучацца кожны з аднародных членаў.

Звернем увагу на словы, якімі пазначаны якасці перажывання, — эмацыйнасць, канкрэтнасць, свядомасць. Ці сапраўды кожнае з гэтых словаў ужыта ў неабходным значэнні — для характарыстыкі якасці перажывання. Безумоўна, слова **свядомасць** не з'яўляецца характарыстыкай, бо абазначае працэс адлюстравання рэчаіснасці ў псіхіцы чалавека; успрыманне і разуменне навакольнага, уласцівае чалавеку. Паводле гэтага зместу характарыстычнасць мае аднакарэннае назоўніку прыслоўе, яно можа спалучацца з дзеясловам *перажыць (перажывацца)* свядома.

Цяпер звернем увагу на слова **канкрэтнасць**. Яно абазначае якасць, аднак перадае сутнасць расплывіста, бо таксама неспалучальнае з апорным дзеясловам. Што можа абазначаць спалучэнне **перажывацца з канкрэтнасцю**? Магчыма, у гэтых словах зашыфравана ўласцівасць дзіцяці мысліць канкрэтнымі зрокавымі вобразамі, успрымаць свет і маўленне канкрэтызавана.

Такім чынам, з трох аднародных членаў толькі першы сапраўды аднародны, у чым прычына недакладнасці навуковага выказвання.

Паспрабуем падабраць у аднародны рад патрэбныя характарыстыкі. Свядомасць дзіцяці праяўляецца ў актыўнай рэакцыі на з'явы рэчаіснасці — тое, што называюць дзіцячай **непасрэднасцю**. Канкрэтна — вобразнае ўспрыняцце свету вызначае **канкрэтызаванасць** дзіцячага ўяўлення.

Акрэсліўся варыянт выпраўлення: **Казкі перажываюцца дзецьмі з большай эмацыйнасцю, непасрэднасцю, канкрэтызаванасцю ўспрыняцця.**

Можна замяніць дзеяслоў і аформіць інфармацыю наступным чынам:

**Дзеці рэагуюць на казку больш эмацыйна, непасрэдна, канкрэтызавана.**

**Дзеці ўспрымаюць казку...**

**Дзеці перажываюць падзеі казкі...**

Вы заўважылі, што апошнія варыянты ўключаюць слова **казка** ў форме адзіночнага ліку? У такім выпадку слова абазначае жанр казкі, абагульненае паняцце пра казку.

Галоўнае ў навуковым стылі правільна зразумець думку. Чытача павінен весці за сабой дасведчаны ў мове вучоны.

З гісторыі красамоўства на Беларусі

# Вечна і непарушна

*У княжанне Вітаўта ў гады найвысшага ўздыму*
*Княства Вялікалітоўскага...*
*Ён, двуадзіны ў асобе вялікага князя —*
*Факельшчык войнаў са слабым, а з дужым анёл-міратворац...*

**Мікола Гусоўскі «Песня пра зубра».**

У паэме Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» вобраз вялікага князя Вітаўта ўвасабляе найвышэйшую ступень адданасці сваёй дзяржаве. Як ідэальныя якасці ўслаўляюцца яго актыўная палітыка і аўтарытэт у суседзяў, упэўненыя дзеянні, усвядомленая адказнасць за беларускую зямлю, ваяўнічасць і доблесць, розум і гнуткасць. Гэтыя прывабныя ў дзяржаўным чалавеку якасці лагічна вызначылі яго гістарычную ролю ў Грунвальдскай бітве 1410 г. Менавіта Вітаўт узначальваў асноўную сілу, што разграміла крыжакоў, — беларускія войскі (у склад яго ўваходзілі: Полацкая, Віцебская, Гарадзенская, Пінская, Ваўкавыская, Лідская, Навагародская, Смаленская, Слонімская, Мсціслаўская і іншыя харугвы).

Гісторыя данесла да нас словы гэтага дзяржаўнага рупліўца ў дарчай грамаце Вітаўта віленскім канонікам (1399 г.). Яна юрыдычна замацоўвае перадачу саборным святарам ва ўладанне Бярэзінскай зямлі. Стыль дакумента сведчыць пра князя як дзейнага, рашучага, упэўненага, уладарнага чалавека. Звяртае на сябе ўвагу асабовая форма выкладу ў множным ліку — традыцыя заходняга юрыдычнага пісьменства: ***Мы великий князь Витовтъ даем вѣданье всѣмъ, кто на сей листъ узозрить или слышить.***

Гранічна сціслы пачатак дакумента пераходзіць у канстатацыю сутнасці дарчай граматы. Форма выказвання ў гэтай кампазіцыйнай частцы нагадвае разважанне, уключае сучасны і папярэдні яму часавыя планы — паведамляецца, каму зямля належала і каму перадаецца: ***Дали есмо землю кановникомъ виленскимъ на имя Березынская къ Стрѣшину, што были есмо дали князю Юрью толочку*** [павіннасць] ***отъ Рогачева оттойма*** [забраў].

Для абазначэння папярэдняй дарчай выкарыстоўваецца форма даўно мінулага прошлага часу (плюсквамперфект), што захавала пасёння свае асноўныя фармальныя адметнасці і значэнне ***были есмо дали.*** У сучаснай беларускай мове ёй адпавядае суадносная форма складанага прошлага часу — *былі далі,* што абазначае, як і тады, дзеянне, якое мелася адбыцца, ды па пэўнай прычыне не адбылося ці адбывалася ды перапынілася. Слоўныя складнікі такой формы маюць аднолькавую зменную граматычную форму: *Ён быў даў (яна была дала), яно было дало кнігу, ды раптам забраў (забрала).*

Паводле традыцыі дарчых грамат, з канкрэтызацыяй формы выкладу, аформлена забарона: ***А в землю первопісаную не ўступатися никому, а ни рогачевцемъ, а ни иному кому. Нижь*** [толькі] ***держять кановникомъ виленскимъ къ Стрѣшину вѣчно, непорюшна*** [непарушна] ***ником же.***

У тэксце граматы адзначана яе правамоцнасць, названы падставы правамоцнасці ***(сей листъ і печять),*** пастаўлена дата: ***А на то на все дали есмо на крѣпость сей лістъ и печять свою велѣли привѣсити. А писанъ у Троцѣху четвергъ по велицѣ дни подъ лѣты по рожствѣ господни 1000 л. и триста и девять десять и девять.***

Асноўнымі адзнакамі стылю паўстаюць грунтоўнасць, падрабязнасць і катэгарычнасць. Вечна і непарушна — гэта ідэальныя якасці, якія ўказваюць на важнасць прынятага рашэння, значнасць пэўных падзей, гэта слоўны сімвал стабільнасці ды ўстойлівасці, да якой імкнуўся князь Вітаўт, да якой імкнецца стыль, мова, чалавек.

Культура мовы

*Алесь КАЎРУС*

# Нязвыкласць — не загана

У друку чытачы нярэдка выказваюць адмоўную ацэнку новых, на іх думку, слоў. І бадай як самая вялікая хіба адзначаецца, што яны (словы) нязвыклыя. Пры гэтым у лік нязвыклых трапляюць не якіясьці новыя словы, а проста невядомыя таму ці іншаму носьбіту мовы з прычыны яго маўленчага досведу і філалагічнай падрыхтоўкі. Пэўны час гэтак успрымаліся некаторымі аўтарамі «старыя» беларускія словы: вернік, жыхарства, мытня, святар, спадар, фундатар, цырыкаць, шляхціц.

Такі падыход да моўных фактаў выяўляе Н.Падабед у нататцы «Блытаніна ад недасведчанасці» («Наша слова», 21.02.96), у якой закранаюцца пытанні культуры мовы радыё- і тэлеперадач. Цалкам падзяляю трывогу аўтара. Толькі вось з прыкладамі-ілюстрацыямі «тых адмоўных з'яў, якія адбываюцца ў нашай мове ў апошнія часы і засмечваюць яе», можна пагадзіцца далёка не з усімі.

Адзначыўшы, што слова *падчас* пачалі ўжываць замест слоў *у час (падчас святкавання),* Н.Падабед піша: «Чаму ж не сказаць: *«У час прабывання.., у час перапісу...»* і г.д. І правільна, і прыемна на слых. Магчыма гэта нейкая даніна модзе, якую «гора-наватары» стараюцца пераняць».

Так, у мове сродкаў масавай інфармацыі «даніна» моўнай модзе назіраецца ўвесь час. Нехта знаходзіць свежае (патрэбнае, удалае) слова, яго падхопліваюць, і яно «ўмодніваецца» (Я.Брыль). Тады журналісты шукаюць новых сродкаў выказвання і на нейкі час адмаўляюцца ад таго, што стала модаю.

Сцвярджэнне Н.Падабед, што прыназоўнік *падчас* пачалі ўжываць нядаўна, не мае пад сабой падстаў. Гэты прыназоўнік пашырыўся ў беларускай мове не сёння, як фіксуе ТСБМ, ілюструючы прыкладамі з твораў І.Шамякіна, Аркадзя Марціновіча. Карыстаўся ім У.Караткевіч: І такой агідзе падпадаюць **падчас** суда людзі! Бедныя мужыкі («Дзікае паляванне караля Стаха»).

Было гэтае слова ў беларускай літаратурнай мове і сто гадоў таму: То гналіся туркі. Так як **падчас** бітвы://Палашы крывыя, вострыя, як брытвы... (Ф.Багушэвіч).

І ўсё ж назіранне Н.Падабед не дарэмнае. З яго напрошваецца вывад: не трэба злоўжываць прыназоўнікам *падчас,* як і яго сінонімам *у час (у часе).*

Н.Падабед лічыць непажаданым ужыванне слоў, «якія неяк непрывычна гучаць»: напрыканцы, распавядае, назовы, скончаецца, скончваецца, перамовы, напоі (у такой форме словы прыведзены ў допісу).

Тут няма як спыніцца на кожным слове. Пра некаторыя з іх пісалася ў друку. А словы *назоў, напой, перамовы* падаюцца як адпаведнікі расійскіх *название, термин, питье, напиток, переговоры* яшчэ ў Беларуска-расійскім слоўніку (Мн., 1926) М.Байкова і С.Некрашэвіча. Сярод іншых адпаведнікаў расійскага *названье* В.Ластоўскі на першае месца паставіў *назоў* (гл. яго «Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік», Коўна, 1924). Цікава, што ў сваіх тлумачэннях В.Ластоўскі ўжывае і варыянт *назова* — у форме жаночага роду. Гэтае слова бачым і ў паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка»:

Але што — не ўцяміць ён
І не можа даць **назовы**,
Што чуваць у тых званох...

Ужываў слова *назоў* Б.Тарашкевіч: «Зьменная часьціна мовы, што азначае імя або **назоў** прадмету, называецца імя прадметнае або прадметнік» (Беларуская граматыка для школ. Вільня, 1929).

Ушчувае Н.Падабед «гора-наватараў» (гэтак яна «далікатна» заве дыктараў Беларускага радыё і тэлебачання) не раз: «А для чаго патрэбна было ўтвараць слова *перамовы?*» Папрок, відавочна, не на той адрас. Слова *перамовы,* як ужо адзначалася, было ў 20-я гады, яшчэ да нас з Вамі, шаноўная Ні- на Апанасаўна, і яно вельмі натуральнае ў беларускай мове.

Ці вось прыклады «скажэння» формы слоў: «А формы слоў: *скончаецца, скончваецца* (час)? Чаму не *канчаецца, заканчваецца?»* Зноў катэгарычнасць (або—або). У мове ж адначасна, паралельна можа існаваць адно і другое (згадайма, варыянтнасць, сінанімію). Так і ў гэтым выпадку. Асабовыя формы дзеяслова *канчаецца, заканчваецца* (праўда, сістэме беларускага словазмянення больш адпавядае *закончваецца*) актыўна функцыянуюць у мове, і пагрозы ім, каб у пажарным парадку станавіцца на іх абарону, не відаць.

Што да варыянтаў *скончаецца, скончваецца,* дык яны ўжываюцца рэдка. Але гэта не новыя ўтварэнні. Згаданы слоўнік М.Байкова і С.Некрашэвіча падае: **скончаць, скончыць** *што* — оканчивать, окончить. У слоўніку В.Ластоўскага дзеяслоў *оканчивать* перакладаецца *даканчаць.* Ужываецца і дзеяслоў закончанага трывання *пасканчаць:* Але некаторыя, як у Аргентыне, **пасканчалі** універсітэты і маюцца нязгорш (Пагоня. 15—21.03.96).

Такім чынам, інфінітывамі *скончаць, даканчаць* (незакончанае трыванне) пацвярджаецца правамернасць зваротнай формы *скончацца:* Усё здарылася праз год, акурат тады, як **скончалася** ягоная камандзіроўка... (А.Асташонак).

Дзеяслоў *скончвацца* (параўн. *дакончвацца*) таксама не выдумалі апошнім часам нейкія свавольнікі. Яго сустракаем у «Новай зямлі» Якуба Коласа:

Калі ж у гэтай справаздачы
Было ўсё добра без астачы
І тыдзень **скончваўся** шчасліва.
Тады лясьнічы глядзеў скрыва...

У слоўніку І.Насовіча змешчаны дзеясловы *скончиваць, скончивацьца.* Іх ужыванне падаецца ў сказах: **Скончивай** сваю работу; а мы сваю ўжо скончили. Работа наша **скончиваецца**...

Дзеяслоў *скончевать* быў вядомы Францішку Скарыну: И тако **скончеваеть** книгу сию (Ф.Скарына. Прадмовы і пасляслоўі. Мн., 1969, с. 121).

Можна вызначыць суадносныя трывальныя формы: кончыць — канчаць; кончыцца-канчацца; скончыць — скончаць, скончваць; скончыцца — скончацца, скончвацца; закончыць — заканчваць (закончваць); закончыцца — заканчвацца (закончвацца).

Пры перакладзе расійскіх дзеясловаў *заканчивать, заканчиваться* Руска-беларускі слоўнік (1993) слушна аддае перавагу беларускім адпаведнікам *канчаць, канчацца,* ставячы іх перад варыянтамі *заканчваць, заканчвацца.*

Зусім відавочна, што ў сказе «Цесць **скончваў** школу яшчэ перад вайною» («ЛіМ», 2.02.96) больш прыдасца дзеяслоў *канчаў* ці *скончыў (кончыў).* Маюць права на ўжыванне і формы *скончаў, скончваў* (як і *закончваў, заканчваў*).

З разгляду моўных фактаў вынікае: калі слова няма ў лексіконе якога-небудзь чалавека ці яно яму нязвыклае, то гэта не значыць, што яго зусім няма ў беларускай мове. І яшчэ. Калі, выбіраючы з шэрагу сінонімаў, варыянтаў, мы аддаём перавагу аднаму з іх, дык не зусім абавязкова, каб іншы аўтар ці размоўца рабіў тое самае. Але ён не можа быць незалежны ад традыцый і сучаснай практыкі мовы.

Паняцце «звыклае — нязвыклае» вельмі суб'ектыўнае. Зразумела, калі свае лінгвістычныя ды эстэтычныя ўяўленні і досвед выхоўваць на шырокай аснове літаратурнай мовы — творах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага ды іншых волатаў нацыянальнай культуры, то новыя і нязвыклыя словы будуць хутка і безбалесна рабіцца звычайнымі, «нашымі». І зусім інакшыя абсягі «звыкласці» сфармуюцца, калі разуменне лексічных скарбаў грунтаваць толькі на школьных падручніках мовы, на зборніках дыктовак і пераказаў, на «Арфаграфічным слоўніку».

На нашу думку, «блытанінай» трэба лічыць не ўжыванне журналістамі слоў, якіх няма ў школьных дапаможніках, а тое, што некаторыя чытачы-рэцэнзенты беспадстаўна выводзяць іх за межы літаратурнай мовы. Бо калі нават слова сапраўды каму-небудзь з нас нязвыклае, гэта не прычына, каб адхіляць яго. Так вядома, што неалагізмы на пачатковым этапе маюць адценне навізны, а значыць, і нязвыкласці. Але потым, па нейкім часе, гэтае адценне знікае. Слова робіцца агульнаўжывальным.

Жывое слова

# А як Кашчэя кліча Баба-Яга?

Публікацыі У.Содаля прыкмячаю даўно. Яны цікавыя, свежыя, неабходныя для роздуму над словам, яго гучаннем, спецыфікай, увогуле, лёсам. Прачытаўшы артыкул названага аўтара — «Касцей» у «Нашым слове», я таксама захацела выказаць некаторыя развагі.

У нашай мове замацавалася слова Папялушка, бо, сапраўды, яно адпаведнае расійскаму Золушка (параўн. попел — зола). Пра слова ж Касцей, што яно — эквівалент мянушкі Кашчэй, адназначна не скажаш. Канешне, гэтыя два словы этымалагічна ўзыходзяць да слова kostь. Даследнік Трубачоў, напрыклад, лічыць слова Кашчэй вытворным ад kostь з суфіксам -jь-, (ЭС, 11, 187). (У расійскай мове назіраем словы з адпаведным чаргаваннем: кость, весть — Кощей, вещий.) Пра словы *Касцей, Кастусь, Касцень* можна зазначыць, на наш погляд, што яны аднакаранёвыя, вытворныя ад *косць* таксама.

Слова Кашчэй мае значэнні: 1. Міфічны персанаж усходнеславянскіх народных казак: кашчавы і злы стары, які валодае таямніцай даўгавечнасці і незлічоным багаццем (ЭСБМ, т.4, М., 1988, с. 325) 2. Вельмі худы чалавек (ТСБМ).

У 2-ім значэнні сустракаем гэтае слова ў М.Гарэцкага («На імперыялістычнай вайне»): «кашчэй-пісар». 1-е значэнне даволі шырокае і яно падразумявае абавязкова і 2-е (Кашчэй — увасабленне жорсткасці, бессардэчнасці, да таго ж кашчавы схуднелы высахлы, з выступаючымі касцямі (ТСБМ).

Мабыць, у сувязі з існаваннем вобраза Кашчэя, як бязлітаснага злога персанажа народных казак, з'явілася мянушка смерці — *Кашчавая* (Б.Сачанка «Апошнія і першыя»): Як Кашчэй — вечная і бязлітасная. Слова ў дадзеным выпадку нясе выразны адмоўны сэнс.

*Касцей* — вытворнае ад Косця, як і *Міцяй* — Міця, *Міхей* — Міша. Імёнаў, утвораных такім чынам, шмат, а згаданыя маюць адценне гутарковасці.

Касцей — імя, якое ніяк не асацыіруецца з адмоўным персанажам. Касцяны, касцісты, кашчавы — кожнае з гэтых слоў мае адценні значэння, суадносіцца з рознымі словамі, як і лясны, лесавы, лясісты, водны, вадзяны, вадзяністы. Пра словы Касцей — Кашчэй таксама можна сказаць, што яны неаднолькавыя ў семантычным, асацыятыўным планах.

І ўсё ж, як варыянт, слова **Касцей** нават патрэбнае. Напрыклад, калі да Кашчэя звяртаецца ліслівая Баба-Яга. Сухарлявы сябар наўрад ці ўспрымаецца ёй такім, бо яна ж, здаецца, не лічыць сябе сухой, кашчавай, значыць, і яе паплечнік — прывабны, «увесь з касцей». І назаве яго, відаць, Ягуся ласкава: Касцею, Касцейка...

Чаму Несмяротны, а не Бессмяротны? Прыстаўка бес- у нас даволі перспектыўная для словаўтварэння: беспамылковы, бесклапотны, бяссонны, бессардэчны, бяскрылы і г.д. аднакаранёвыя словы з прыстаўкай бяс- да слова бессмяротны: бяссмерце. Праўда, слова «абяссмерціць» не вельмі стасуецца да нашай моўнай плыні, бо скалькаванае.

Некаторыя эстрадныя жартаўнікі спрабуюць называць Кашчэя Здыхлік Бессмяротны, але ж гэта ўжо дысфемізм, які не ўпрыгожвае мову.

P.S. Дзякую, што Вы ёсць, шаноўныя нашасловаўцы.

**Мальвіна БЕЛАЯ.**
в.Кублічы.

**Беларускае Адраджэнне**

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Заблудаўскі перыяд дзейнасці Івана Фёдарава

19 красавіка 1563 года Іван Фёдараў распачаў друкаванне сваёй першай кнігі Апостала (законч. 14.04.64 г.).

З усімі сакрэтамі друкарскай справы беларускі асветнік, відаць, азнаёміўся працуючы з 1553 па 1563 гг. у ананімнай друкарні наўгародскага святара Сільвестра (дарэчы, знакамітага аўтара «Дамастроя»), які, разам з кастрамскім шляхцічам Адашавым, меў рашучы голас у Выбранай радзе. Гэты дарадчы орган дапамагаў кіраваць Маскоўскай дзяржавай яшчэ маладому тады цару Івану IV (у жылах якога, праз маці царыцу Алену Глінскую, цякла беларуская кроў). У канцы 1550-х гг. урад Івана IV пачынае праводзіць цэнтралізатарскую палітыку. У 1560 годзе протаіерэй Сільвестр вымушаны быў прыняць манашаскі пострыг у Кірыла-Белазёрскім манастыры, ягоная кнігапісная майстэрня і друкарня на руках сына Анфіма Сільвестрава паступова занепадае. І цар на грунце яе стварае дзяржаўную друкарню на чале з «диакономъ церквы Николы чюдотворца Гостунъскаго», друкаром грэцкім і славянскім, Іванам Фёдаравым, як самым здольным, вопытным і таленавітым майстрам-рэдактарам.

Але на другую палову 1560-х гадоў прыпадае апрычніна. Напачатку 1566 г. апякун друкароў мітрапаліт Афанасій цяжка захварэў, і, адчуваючы неспрыяльную палітычную сітуацыю, Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец вырашаюць ад'ехаць з Масквы на беларускія землі Вялікага Княства Літоўскага.

На заходняй мяжы беларускіх зямель Вялікага Княства Літоўскага ў Супраслі на той час ужо ўтварыўся адзін з буйнейшых цэнтраў кніжнасці Slavia Orthodoxia. Невыпадкова таму на Падляшшы, у Заблудаве, у маёнтку магнатаў Хадкевічаў, заснавальнікаў Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра (пазней сусветна вядомай Супрасльскай Лаўры), усярэдзіне 1560 г. было створана адно са старэйшых выдавецтваў, куды і прыехалі друкары з Масковіі.

Пасля прыняцця Люблінскай уніі 1569 г., калі Падляшша і Валынь былі далучаны да Польшчы, вялікі гетман Хадкевіч дамагаецца, каб мяжа княства праходзіла пасля Блудаўскай пушчы, праз яго палітычную вагу і аўтарытэт Заблудаву надаецца магдэбургскае права і на навакольных землях ствараецца асобная Заблудаўская пратапопія.

Відаць, у той час, калі супрасльскія кніжнікі шукалі дакладныя («добрыя») пераклады кананічных тэкстаў (Супрасльская Лаўра мела адну з найбагацейшых у Еўропе бібліятэк) на землях Візантыі, паўднёвых славян і ў Масковіі адбылося іх знаёмства з Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам. Такім чынам, заблудаўскі выдавецкі Савет, здабыўшы ўласных кнігадрукароў, у маёнтку Р.А.Хадкевіча стварыў праваслаўны асветніцкі цэнтр, дзе 8 ліпеня 1568 года пачала набірацца, а 17 сакавіка 1569 года пабачыла свет першая кніга — «Евангелле вучыцельнае»: зборнік казанняў і павучэнняў да евангельскіх чытанняў на розныя нядзельныя дні і святы. На тытульным лісце выдання пазначалася: «Книга зовомая Евангелие учителное. От всех четырех евангелистов избрана. И от многих Божественных Писаний. И предана Церкви Божией, во всякую неделю читатися. Також и на Господския праздники и прочих святых. На поучение христоименитым людем ко исправлению душевному и телесному. Божиею помощию выдрукована.

За щастливаго панования наяснейшаго государя нашего Жикгимонта Августа, Божиею милостию короля польскаго и великаго князя литовъскаго, русскаго, прусскаго, жомоитцкаго, мазоветцкаго, вифляньскаго и иных.

А при архиепископе Іоне, Божиею милостию митрополите киевском и галицком и всея Русии.

И выдана есть во отчизном имению пана виленьскаго, гетмана наивышшаго Великаго князьства Литовскаго, старосты городеньскаго и могилевъскаго, его милости пана Григория Александровича Ходкевича в месте зовомом Заблудовью, власным накладом его милости. А начася сия книга друковати по воплощению Сына Слова Божия 1568. Месяца июля, 8. И съвершися року 69, месяца марта 17. Давшему же Богу начати и съвершити Благоизволившему. Слава, честь и поклонение в бесконечные веки. Аминь.» (Lampada. 1993, marzec. NR3. С. 10; Лабынцаў Ю., Шчавінская Л. Роля Заблудава ў беларускім і ўсходнеславянскім пісьменстве// 400-lecie Bractwa Bohejawleńskiego. Supras'l — Zabludow — Bielsk Podlaski, 1994. — 30 с.

У пачатку кнігі ў прадмове змяшчалася выдавецкая праграма. Яна, відаць, складалася пры непасрэдным удзеле Р.Хадкевіча, пра што сведчыць значная колькасць беларусізмаў у царкоўнаславянскім тэксце. Сярод аўтараў прадмовы былі таксама супрасльскі архімандрыт Яўстафій, заблудаўскі пратапоп Нестар, Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец. («Евангелле вучыцельнае» найперш было распаўсюджана на Лемкаўшчыне, Холмшчыне, праваслаўных ваколіцах і асяродках Любліна, на тэрыторыях «карпатарускай пісьменнасці XVII ст.» (пра гэты факт пісаў сам Іван Франко), што ў нейкай ступені пацвярджае цікавасць Івана Фёдарава да палескага і падляшскага рэгіёна і блізкіх да яго тэрыторый, ягоны паўднёва-заходні беларускі радавод. Кніга перакладалася на румынскую мову вядомым друкаром Карэсі (1581), была перапісана ў Тырнаве іераманахам Даніілам.)

Другое і апошняе выданне заблудаўскай друкарні — «Псалтыр з Часаслоўцам» 1570 года было падрыхтавана ўжо адным Іванам Фёдаравым.

Князь Рыгор Хадкевіч вельмі цяжка перажыў падзеі Люблінскай уніі, што, відаць, скараціла яму жыццё не на адзін год, ён адчуў сябе старым і знясіленым, таму немаладому ўжо Івану Фёдараву (першадрукару было 60 гадоў) дараваў ва ўласнасць вёску Мізякова (Moskwicinu Iwanu własnego gruntu sieliszcza Miziakowskiego dano). Захаваўся афарыстычны адказ беларускага асветніка: «...не удобо ми бе ралом ниже, семян сеянием време живота своего съкращати, но имамъ убо вместо рала художество наручных делъ сосуды, вместо же житныхъ семенъ духовныя семена по вселенней разсевати и всем по чину раздавати духовную сию пищу.»

**Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»**

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)*

*Прачнуўся лес ад бразгатання,*
*Ад таго шуму палявання:*
*І крык, і **лямант** захаплення,*

*Гудзе лес зверху да карэння.*

.........................................

*Дарэктар раўецца на кавалкі.*
*Зламаў на блясе ўжо дзве палкі,*
*Дзярэцца нема, лямантуе, —*
*Такі там гвалт — хай бог ратуе.*

**Лямант.** Адчайны, немы крык як праяўленне жаху, як кліч на дапамогу (ТСБМ). **Лямант** вопль (БРС); **Вопль** лямант, крык; (плач) плач; галашэнне (РБС); **Галашэнне** причитание (БРС). **Галашэнне** 1. Дзеянне паводле знач. дзеясл. галасіць, а таксама гукі гэтага дзеяння (ТСБМ). **Галасіць** 1. Голасна плакаць, прыгаворваючы (пры выражэнні гора, крыўды і пад.) (ТСБМ).

Lamento n жалоба, причитание. (GDRW). (SW) прыводзіць сінонім слову Lamento, das — Jammer. Jammer m 1. (громкий плач), причитание; вопль; вопли; стенания; 2. Горе, беда; бедствие; несчастье; жалость (GDRW).

Як бачым, у беларускіх слоўніках, а таксама і нямецкіх, словы **лямант** і **Lamento** выражаюць 'рыданне, плач' (лац. lāmenta).

Зусім іншая эмоцыя надаецца значэнню слова *лямант* у кантэксце паэмы: *«І крык, і лямант захаплення»* паляваннем. Гісторыя слова: «Наша слова», № 36 (248), 6 верасня 1995 г.

Калі прачытаем урыўкі з паэмы, то заўважым, што слова *малюнак* мае розныя адценні:

*Ужо Костусь двойчы неўзаметкі*
*Саскокваў з печы на разведкі,*
*У вокны доўга прыглядаўся,*
*Ў **малюнкі** так ён углыбляўся,*
*Што ў іншы свет перабіраўся.*
*На шыбе ўсё: снапкі ржаныя...*

.........................................

*Другі **малюнак** след трайчаткі*
*Па лесе кідаюць зайчаткі.*

**Малюнак:** 1. Карціна, ілюстрацыя; рысунак (ТСБМ). Зыходзячы з гісторыі слова, яно ўтворана ад Mal n 'знак'. Гэтыя «знакі» могуць быць зроблены ці адбіты чалавекам на чым-н. свядома, ці на чым-н. з'явіцца несвядома, што мы маем у тэксце паэмы. У гэтым сэнсе слова *малюнак* адпавядае ням. Bild n.

*Прад ім раўніна рассцілалась*

.........................................

*І кожны міг каля чыгункі*
*З'яўляліся новыя **малюнкі**.*

Тут слова *малюнак* мае пераноснае значэнне. І вельмі трапна тлумачыцца гэтае значэнне ў WDG. Bild, das 3. Ausschnitt aus der Umwelt, der vom menschlichen Auge erfaßt wird, Anblick, Ansicht; das abwechslungsreiche Bild einer Gebirgslandsohaft; ein düsteres Bild lag vor ihm (частка з навакольнага свету, якую ўспрымае вока чалавека, від).

Тлумачэнні ў ТСБМ слова *малюнак* 2 і 3 не раскрываюць значэння гэтага слова ў паданым вышэй урыўку з паэмы.

Сінанімічны слоўнік (SW) як сінонімы дае Bild: 1. Bild, das: 1. Gemälde*.

Словы *малюнак* і Gemälde n супадаюць у некаторых пераносных значэннях. **Малюнак** 2. перан. Тое, што можна ўявіць сабе ў канкрэтных вобразах (ТСБМ); **Gemälde, das.** 2. (übertr.) lebendige, anschauliche Schilderung, Beschreibung (WDG).

*О, добры час дзянькоў прыгожых!*
*Ты знік у хвалях часоў Божых,*
*І толькі ў думках і ўспамінах*
*Жывеш-гарыш у днях дзяцінных.*

.........................................

*І ўстануць з'явы, як жывыя,*
***Малюнкі** сэрцу дарагія.*

І ў нямецкай мове: das Gemälde meiner Jugend (WDG).

*Каб завяршыць **малюнак** лета,*
*Каб песня ўся была дапета*
*На мой манер і на мой лад*
*І апісаць усё падрад.*

Параўнайце: das Gemälde des Weltkrieges (WDG).

Гісторыя слова: «Наша слова», № 38 (250), 20 верасня 1995 г.

---

*Словы **Gemälde, malen, малюнак, маляваць** маюць адну і тую ж крыніцу паходжання.

# Галасы з «чарнобыльскай зоны»

Канешне, не зусім справядліва, што кніга *«Гаворыць чарнобыльцы»* — бібліяграфічная рэдкасць. Наклад — 250 асобнікаў. Але такая рэчаіснасць, і з кнігай знаёмяцца ў бібліятэках. А падрыхтавалі яе Дзяржаўная гісторыка-культурная экспедыцыя па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, у раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, і Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі.

Прычынай падрыхтоўкі й выдання кнігі стала нацыянальная бяда — адсяленне пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС беларусаў з месцаў іх пражывання. У выніку перасялення «чарнобыльцаў» паўстала пагроза знікнення гаворак гэтых зон. Так, аўтар змешчанага ў выданні артыкула А.А.Крывіцкі адзначае, што самая паўднёвая частка ўсходняй ускраіны ўсходне-палескай групы гаворак з прычыны поўнага высялення адсюль насельніцтва поўнасцю разбурана.

У кнізе змешчаныя матэрыялы, сабраныя ў часе экспедыцыяў, праведзеных аддзелам дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АНБ па даследаванні і фіксацыі асаблівасцей мовы і духоўнай культуры насельніцтва рэгіёнаў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС. Сярод матэрыялаў ёсць і алфавітная падборка анамастыкі з тлумачэннямі. Тут нямала дужа цікавых словаў. Падам прыклады:

ГАРО́ЎЛЯ ж. Цяжкая праца.

ДЗЯ́ННА ж. Жонка дзядзькі.

ЛЕЯ ж. Лівень. (Гэта слова ёсць у вершы Анатоля Сыса.)

ПЕ́ЛЯ ж. Палонка. (Шмат каму знаёмае апавяданне А.Федарэнкі «Пеля».)

ПРЫДУ́ХА ж. Недахоп у вадзе кіслароду.

РАЗВО́ДКА ж. Жанчына, якая скасавала шлюб.

РАСТАРО́П м. Расталая дарога.

Я́ПА ж. Нарасць на дрэве.

Падобных матэрыялаў у кнізе багата. Некаторыя аўтары змясцілі тлумачэнне лексікі.

Калі чытаеш тэксты дыялектных матэрыялаў, становіцца сумна ад проста фізічнага ачування вялікае страты, якую нясе наша дыялекталогія, а такім чынам, уся нацыянальная культура, літаратурная мова, якая жывіцца дыялектамі.

Пададзеныя ў кнізе ўзоры гаворак часам нагадваюць мову персанажаў І.Мележа з «Палескай хронікі». Гэта галасы з «чарнобыльскай зоны».

Падаем некалькі фрагментаў запісаў.

## З гаворак былых жыхароў Хойніцкага, Нараўлянскага і Брагінскага раёнаў

Радзіяцыя хужэй войны. Толькі розбагацеліся, наковесіўся Чэрнобуль. Як нас зусім не пазатраўлівало? Тоды, у войну, попалілі, а цепер жыўем згорэло. Я ў войну машыну закопала і полотна назакопала, усе і поосталося. От села бўў попел. Луччэй построілася, як було. З Прыпеці лесу нацегала, подоўжной пілой дзерэво рэзалі, разжыліся. У нас там і рыба, і усе шчо, шчо. Крыгамі ловілі рыбу, утрох. Дзед — і два полазы расапнуць. Пойдам сена грэбці панаварваем рыбы... Дом мой у зоні на чатыры комнаці зостаўся. Лацце поставалося, пуўкідалі шкафэ, усе-усе. Лежыць жакетка чорна з каракулевум воротніком. Я за жакетку, узела на руку, а потом: начорта ена мне! Поклала на дзіван. Узела пудзорнік, сама ўшывала, кружэвы везала. Сцірала разоў п'яць тут. Голубую обцінку і чысто кашміровую хустку побрала. Шчо й поосталось. А закаток столькі було, каліны! Такее добро кінулі! Як ездзілі цепэр — позаростало, бур'ян по городчыках, бур'ян по клубніцах. Боком заборы попадалі. Дзверы ў шкафах, у домі павурывалі, домоўку, відно, робіць ці шчо. За п'яць кілометроў од нас, од Прыпеці до Брагіна ў петнаццаць радоў проволока.

---

Я коліся ў дзеўках у дзве косе заплетувалася — і ленты до плечы. Красіла шчокі, пейсы гваздом круціла. Хто боцінкі надзене, хто чоботы хромовуе, а хто ў постолях — і танцуюць падыспан, крукоўяка, коробушку, кадрэлю. А я любіла танцоваць польку і вальса. У постолях танцовала. Раз обора оборвалася — і загубіла постола. Думала — век мне ўгомону не будзе. А цепер, зірні, ека шкрага я!

---

Буў у нас Грыгорый Алексеевіч — вечны грамоцей. Што кому росчытаць — да его. Ліст напісаць — ён. Розумны, грамотны чоловек. І хазяін добрэнны! Хомут, седзелка, у оглоблі коня, дугу — поехаў. І корову у его добрэнныя, і свіння не благіе. А сослалі его туда, дзе собакамі ездзілі. До войны сослалі. Там і погіб. Я була ў Гомлі на свадзьбі тры дне, а мо чатэры у его родні. У цветы посцілкі — свінірчык такі завезла. Успомнілі про Грыгорыя. Мало такіх людзей було. Важко робіў і ўсё ведаў. Не злюбілі такіх людзей і со свету позжывалі.

**Падрыхтаваў Генадзь КАЖАМЯКІН.**

## І СМЕХ І ГРЭХ

**Пародыі**

*Васіль ГУСЦІНОВІЧ*

### Здаецца, кіну ўсё...

*Здаецца, кіну ўсё.*
*На д'ябла тыя вершы!*
*Няхай гараць трысцём,*
*Але не самы першы.*

**Леанід Галубовіч.**

Махну рукой на тлум-бузу.
На плечы — вуды, хлеб — у жменю.
Аддам кату ўсю драбязу...
Не! Хвост адзін вазьму ў кішэню,
З якім пачаўся ўвесь улоў
І нат забыў пра злыдні-вершы.
Нясу пячкурыка дамоў,
Таму што ён злавіўся першым.

**Пачутае «У Лявона»**

### Вартасныя грошы

— Дэвальвацыя, падзенне курса долара, — абураецца бывалец шынка. — І калі нарэшце зробяць нармальныя грошы!

— А я мару, каб пачалі выпускаць банкноты з ліпучкамі, — кажа ягоны сябра, — ім бы цаны ні было.

— Табе яны на што?

— Мне то такія банкноты непатрэбныя, але вось маёй жонцы было б цяжэй выцягваць іх з маёй кішэні.

### Сорамна

— З сораму ледзь не згарэла ўчора, — жаліцца Лёля сяброўцы.

— Талон не прабіла?

— Каб жа! Былы каханак аддаў мне лісты, якія я калісь яму пасылала.

— Сорамна, што калісь пісала?

— Дзе там! Больш з таго — каму.

### Дыпламаты

Маладзён спрабуе фліртаваць з дзяўчынай, але тая не адказвае на ягоныя захады і маўчыць.

— Паненка, мабыць, рыхтуецца на артыстку нямога кіно.

— Не ўгадалі — на дыпламата!

— То і вучыцеся ад мяне дыпламатычнай размове, каб умець сказаць штось нат тады, калі няма чаго гаварыць.

— Але ж дыпламатыя — такая штука, каб умець не сказаць нічога, калі нат трэба шмат што сказаць.

**Учуў З.С.**

**Прэса-куламеса**

### Як проста набыць усё наша грамадства!

«11. Увесці спрошчаную працэдуру набыцця **грамадства** для выхадцаў з Беларусі і іх нашчадкаў».

*«Літаратура і мастацтва».*

### Успяваў бард Крывію...

«Зала цёпла сустрэла ўсімі любімыя песні «Пяшчота ліўня», «Мая **Крывая**» ды іншыя».

*«Літаратура і мастацтва».*

### Між радкамі — цэлы месяц

«**9 студзеня** Прэзідэнт прыбудзе ў авальную залу

**9 снежня** Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка будзе прысутнічаць на адкрыцці першай сесіі Вярхоўнага Савета 13-га склікання».

*«Літаратура і мастацтва».*

### Запрашэнне з японскім акцэнтам

«**Сасибо.** Я приглашаю всех на выставку, приглашаю войти в яркий, цветной мир нашего будущего».

*«Ва-Банкъ».*

### Менчукі, як расліннасць

«На кожную свядомую душу прыходзіцца па адной жывёлаадзінцы. А калі ўлічыць, што прыплод гарадской **флоры** расце значна хутчэй за прырост мінчан, то мы і аглянуцца не паспеем, як станем **чалавечай меншасцю** ў сваім слаўным горадзе».

*«Звязда».*

**Падрыхтавала Л.ШНІП.**

